Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ — АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

16 ЖНІЎНЯ 1928 г.
№ 9 (52)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ



ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
Менск—1928

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!



СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

16 ЖНІЎНЯ 1928 г.

**№ 9 (52)**

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

# ЗЬМЕСТ.

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### Пра разьмеркаваньне і дачу льгот па абавязковым акладным страхаваньні ў 1928-29 апэрацыйным годзе.

1. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам разьмеркаваць паміж раёнамі, паводле дадданай да гэтай пастановы інструкцыі, фонд льгот па абавязковым акладным страхаваньні, устаноўлены Саветам працы і Абароны для сельскіх мясцовасьцяй у разьмеры 12 проц. і для гарадзкіх—у разьмеры 7 проц., ад сумы налічанага акладу па ўсіх відах акладнога страхаваньня.

2. Даручыць Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня БССР, не чакаючы вынікаў канчатковага налічэньня сум акладу па акругах БССР на 1928-29 г., паведаміць акруговыя выканаўчыя камітэты аб суме фонду льгот, прадугледжанага меркаваньнямі пляну акладнога страхаваньня на 1928-29 г. па акругах.

3. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам задаволіць льготамі бяднейшае насельніцтва не пазьней 1-га кастрычніка 1928 г.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР **В. Крывіцкі.**

20 ліпеня 1928 г.
г. Менск.

---

*Дадатак.*

## Інструкцыя пра парадак дачы насельніцтву БССР льгот па абавязковым акладным страхаваньні ў 1928-29 апэрацыйным годзе.

### I. Па сельскім страхаваньні.

§ 1. Фонд льгот для насельніцтва па абавязковым акладным страхаваньні разьмяркоўваецца паміж раёнамі акруговымі камісіямі па адзіным сельска-гаспадарчым падатку. У склад акруговых падатковых камісій уводзяцца з правам пастаноўчага голасу загадчыкі (інспэктары) акруговых страхавых агэнцтваў (інспэктарыятаў).

§ 2. Акруговы фонд льгот павінен разьмяркоўвацца паміж раёнамі ў залежнасьці ад эканамічнага становішча сялянскіх гаспадарак з тым, каб ва ўсіх раёнах бяднейшае насельніцтва было аднолькава ахоплена льготамі.

§ 3. Раённы фонд льгот паміж сельскімі і местачковымі саветамі разьмяркоўваюцца раённымі падатковымі камісіямі, з удзелам у іх раённых страхавых агэнтаў з правам пастаноўчага голасу. Замест прадстаўнікоў паселішчаў у склад камісіі ўводзяцца страхавыя ўпаўнаважаныя ад сельскіх саветаў.

§ 4. Раённыя камісіі пры разьмеркаваньні фонду льгот выдзяляюць рэзэрв у разьмеры 5 проц. з сумы агульнага фонду льгот, для задаволеньня льготамі сем'яў чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, члены якіх узяты будуць у шэрагі Чырвонай арміі альбо Чырвонага флёту ўвосень 1928 году.

§ 5. Пастановы падатковых камісій пра разьмеркаваньне фонду льгот зацьвярджаюцца: у акругах—прэзыдыумамі акруговых выканаўчых камітэтаў, а ў раёнах—прэзыдыумамі раённых выканаўчых камітэтаў.

§ 6. Льготы асобным страхавальнікам даюцца сельскімі і местачковымі камісіямі, у склад якіх уваходзяць: старшыня сельскага ці местачковага савету, прадстаўнік сялянскага камітэту таварыства ўзаемадапамогі і сельскі страхавы ўпаўнаважаны.

§ 7. За рахунак установленага для сельскага ці местачковага савету фонду льгот у першую чаргу вызваляюцца ад выплаты акладных страхавых плацяжоў:

а) усе тыя гаспадаркі, па якіх налічана акладных страхавых пляцяжоў ня больш 10 капеек;

б) сем'і асоб, узятых у Чырвоную армію і Чырвоны флёт, абавязкова ў разьмеры аднае трэцяй часткі акладу, налічанага на гэтыя гаспадаркі па ўсіх відах акладнога страхаваньня;

в) былыя чырвоныя партызаны і іх сем'і—у разьмеры ад дваццаці пяці (25) да пяцідзесяці (50) процантаў акладу плацяжоў па вызначэньні сельскіх ці местачковых камісій і

г) дабравольныя пажарныя арганізацыі, якія існуюць на падставе зацьверджаных у законным парадку статутаў.

*Увага 1.* Да асоб, узятых у шэрагі Чырвонай арміі і Чырвонага флёту, на сем'і якіх пашыраюцца льготы па абавязковым акладным страхаваньні, належаць: 1) вайскоўцы радавога, а таксама і начальніцкага (каманднага, адміністрацыйнага, палітычнага, мэдыцынскага і вэтэрынарнага) складу, якія знаходзяцца на абавязковай службе ў кадравым складзе Чырвонай арміі (у тым ліку ў войску Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы і Канвойнай варты); 2) узятыя для правядзеньня дапрызыўнай і пазавайсковай падрыхтоўкі і на вучэбныя зборы ў якасьці інструктароў асобы начальніцкага складу, якія лічацца ў пераменным складзе тэрытарыяльных часьцей, у доўгатэрміновым адпуску і ў запасе Чырвонай арміі і 3) асобы, звольненыя ад абавязковай службы ў кадравым складзе Чырвонай арміі і Чырвонага флёту ў доўгатэрміновы водпуск, у запас альбо зусім ад службы пасьля 1-га сакавіка 1928 г.

Знаходжаньне члена сям'і на вайсковай службе пацьвярджаецца пасьведчаньнем, якое выдаецца з месца службы, а таксама можа правярацца па дакумэнтах фінансавых частак раённых выканаўчых камітэтаў.

Пад сем'ямі асоб, што адбываюць сапраўдную вайсковую службу, разумеюцца: кроўна-працоўныя аб'яднаньні асоб рознага сваяцтва, якія жывуць супольна і вядуць адну гаспадарку альбо жывуць на супольныя сродкі. Да такіх сем'яў належаць і асобы, што ўвайшлі ў сям'ю пасьля шлюбу, а таксама прымакі.

*Увага 2.* Калі сем'і чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў або былыя чырвоныя партызаны і іх сем'і ўваходзяць у склад калектыўнай гаспадаркі (арцелі, камуны і інш.) і свае асобнай гаспадаркі ня маюць, то калектыўная гаспадарка павінна быць вызвалена ад выплаты акладу страхавых плацяжоў (гл. літ. „б“ і „в“

гэтага параграфу), якія прыпадаюць на долю кожнай маючай права на льготу чырвонаармейскай, чырвонафлёцкай і былога чырвонага партызана сям'і.

*Увага 3.* Сем'і чырвонаармейцаў, чырвонафлётцаў і былых чырвоных партызанаў маюць права толькі на льготу па акладу. Нядоімка мінулага году ў парадку памянёных льгот ня зьнімаецца.

*Увага 4.* Калі сем'ям чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, былым чырвоным партызанам і іх сем'ям па стану іх гаспадарак льгота належыць у большым разьмеры, чым паказана ў літ. „б" і „в" гэтага параграфу, альбо гэтыя гаспадаркі могуць быць вызвалены ад выплаты ўсіх акладных страхавых плацяжоў на падставе льгот бяднейшаму насельніцтву, то ў такіх выпадках яны атрымоўваюць большую льготу.

*Увага 5.* Льготы дабравольным пажарным арганізацыям выяўляюцца ў дармовым страхаваньні пажарных будынкаў (дэпо і пунь) і штатнага конскага складу паводле норм акладнога страхаваньня.

§ 8. Пасьля задаволеньня льготамі гаспадарак, паказаных у § 7 гэтай інструкцыі, рэшта льготнага фонду разьмяркоўваецца паміж:

а) бяднейшымі гаспадаркамі, а таксама гаспадаркамі, зруйнаванымі навальнымі бядотамі (пажар, градабіцьце, вымачкі, вымаразкі, гураган, разводзьдзе, поўная ці частковая гібель пасеваў або сенажаці, паморак на жывёлу і крадзеж жывёлы);

б) інвалідамі вайны і працы, аднесенымі да першай, другой і трэцяй катэгорыі інваліднасьці;

в) перасяленцамі і расьсяленцамі і іх аб'яднаньнямі (арцелямі, камунамі, якія перасяляюцца і расьсяляюцца паводле правілаў аб земляўпарадкаваньні і перасяленьні на новыя мясцы, калі гэтымі гаспадаркамі ў працягу з 1 ліпеня 1927 г. да 1 ліпеня 1928 году пабудаваны на новаадведзеных мясцох будынкі, патрэбныя для сталага вядзеньня гаспадаркі;

г) імігрантамі і рээмігрантамі, якія вядуць сельскую гаспадарку сваёю працай;

д) цыганамі, якія перайшлі на сталае працоўнае жыцьцё, калі яны фактычна пасяліліся на зямлі з належнага дазволу зямельных органаў не раней 1-га студзеня 1926 году і

е) працоўным насельніцтвам мястэчак, якія перасяліліся або расьсяліліся ў парадку правілаў аб земляўпарадкаваньні і расьсяленьні.

*Увага.* Льготы гаспадаркам, пералічаным у літ. „д" і „е" гэтага параграфу, даюцца незалежна ад пабудаваньня будынкаў на мясцох новага пасяленьня.

§ 9. З пералічаных у § 8 гэтай інструкцыі гаспадарак і асоб льготы даюцца толькі тым, правы якіх на атрыманьне льгот будуць прызнаны сельскімі ці местачковымі камісіямі (гл. § 6 інструкцыі) у залежнасьці ад іх беднасьці і стану гаспадаркі.

Памянёныя гаспадаркі могуць вызваляцца ад выплаты акладных страхавых плацяжоў ц а л к о м ці ч а с т к о в а.

*Увага.* Калі за пералічанымі ў гэтым параграфе гаспадаркамі, якія будуць вызвалены ад выплаты акладу за 1928-29 год, лічыцца нядоімка страхавых плацяжоў, то апошняя зьмяншаецца ў той самай частцы або процанце, як і аклад (цалком ці часткова).

§ 10. Зьнятая разам з акладам нядоімка залічваецца ў агульны фонд льгот.

§ 11. Пры вызваленьні асобных гаспадарак ад выплаты акладных страхавых плацяжоў, сельскія і местачковыя камісіі павінны кіравацца сьпісамі незаможных гаспадарак.

На вызваленыя ад выплаты страхавых плацяжоў гаспадаркі сельскімі і местачковымі камісіямі складаюцца сьпісы ў двух экзэмплярах, якія перадаюцца на зацьверджаньне раённай падаткавай камісіі (глядзі § 3 інстр.).

Пасьля зацьверджаньня адзін экзэмпляр сьпісу перадаецца ў страхавое агэнцтва, а другі—зварочваецца сельскаму ці местачковаму савету і вывешваецца да агульнага ведама насельніцтва.

§ 12. Скаргі на пастановы сельскіх і местачковых камісій могуць падавацца ў раённую падатковую камісію на працягу двух тydняў ад дня павешаньня сьпісаў у сельскім ці местачковым савеце.

Пастановы раённых падатковых камісій лічацца канчатковымі.

§ 13. Калі будзе страхавая страта ў гаспадарцы, якая вызвалена ў парадку льгот цалком ці часткова ад выплаты акладных страхавых плацяжоў, то зьнятая сума **н я ў т р ы м о ў в а е ц ц а** з страхавой адплаты.

§ 14. Калі страхавальнікі, якім дадзены льготы, выплацілі страхавыя плацяжы да моманту дачы ім льгот, то лішкі ўнесеных сум зварочваюцца страхавальніку альбо, з іхняй на гэта згоды, залічваюцца ў рахунак плацяжоў будучага году.

## II. Па гарадзкім страхаваньні.

§ 15. Льготы па гарадзкім акладным страхаваньні даюцца тым самым катэгорыям страхавальнікаў і ў такім самым разьмеры, як па сельскім акладным страхаваньні (гл. §§ 7, 8, 9, 10, 13 і 14 гэтай інструкцыі).

§ 16. Для вызваленьня ад выплаты акладных страхавых плацяжоў у гарадох складаюцца камісіі—з старшыні—прадстаўніка гарадзкога савету—і членаў па аднаму ад: камітэту таварыства ўзаемадапамогі, аб‘яднаньня прафэсіянальных саюзаў, страхавога агэнцтва (інспэктарыяту) і інспэктарыяту сацыяльнага забясьпечаньня.

§ 17. Сем‘ям чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, а таксама дабравольным пажарным арганізацыям льгота даецца пры зборы плацяжоў.

Іншыя страхавальнікі, якія жадаюць атрымаць льготу, павінны падаць аб гэтым заяву ў страхавое агэнцтва (інспэктарыят).

§ 18. Страхавыя агэнцтвы павінны правяраць матар‘яльнае становішча асоб, што падалі заявы з хадайніцтвамі аб вызваленьні ад выплаты акладных страхавых плацяжоў. Пасьля праверкі гэтыя заявы з заключэньнем страхавога агэнцтва (інспэктарыяту) ідуць на разгляд камісіі (гл. § 16 інструкцыі).

Пастановы камісіі лічацца канчатковымі.

*Увага.* Сьпісы асоб, вызваленых ад плацяжоў, з адзнакаю аб зьнятай суме, павінны быць вывешаны ў страхавых агэнцтвах для ведама насельніцтва.

§ 19. Нескарыстаны льготны фонд у асобных гарадох з тае прычыны, што няма контынгэнту асоб, якія маюць правы на льготы, складае рэспубліканскі фонд і разьмяркоўваецца Кіраўніцтвам Дзяржаўнага Страхаваньня БССР паміж іншымі гарадамі, якія патрабуюць дадатковага фонду льгот.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры Савеце
Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай
Нарады БССР **В. Крывіцкі.**

20 ліпеня 1928 г.

## 2. Пастанова Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

### Пра зацьверджаньне штатаў для масавых тыповых установ, што знаходзяцца на мясцовым бюджэце.

Зацьвердзіць наступныя штаты для масавых тыповых установ, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце.

### I. Штаты для культурна-асьветных установ.

**1. Аднакамплектовая школа.**

Настаўнікаў . . . . . . . . . . . 1 шт. адз.

**2. Двухкамплектовая школа.**

Настаўнікаў . . . . . . . . . . . 2 шт. адз.

**3. Трохкамплектовая школа.**

| | |
|---|---|
| За загадваньне школы . . . . . | $^1/_5$ стаўкі наст. |
| Настаўнікаў . . . . . . . . . . | $3^7/_{12}$ шт. адз. |
| Тэхн. працаўнікоў . . . . . . . | $1^7/_{12}$ „ „ |
| | $4^{47}/_{60}$ шт. адз. |

**4. Чатырохкамплектовая школа.**

| | |
|---|---|
| За загадваньне школай . . . . . | $^1/_4$ стаўк. наст. |
| Настаўнікаў . . . . . . . . . . | $4^7/_{12}$ шт. адз. |
| Сакратар пэдагагічнай рады, ён-жа бібліатэкар і справавод . . | $^1/_4$ „ „ |
| Тэхн. працаўнікоў . . . . . . . | 1 „ „ |
| | $6^1/_{12}$ шт. адз. |

а) За загадваньне аднакамплектовымі і двухкамплектовымі школамі дадаецца ў парадку дзяржаўнага нармаваньня заработнай платы дадатковая сума да ўстаноўленай стаўкі.

б) Загадчыку чатырохкамплектовай школай за загадваньне роўналежнымі групамі, апроч чатырох, дадаецца дадаткова за кожную групу $^1/_{20}$ стаўкі настаўніка.

в) Паводле навучальнага пляну для I і II году навучаньня ўстанаўляецца 24 тыдн. гадзіны працы, для III-га—30 гадзін, а для IV-га году навучаньня—32 тыднёвых гадзіны працы.

г) У нацыянальных школах на вывучэньне беларускай мовы дадаецца: у аднакамплектовай школе—$^1/_{10}$ стаўкі настаўніка; у двухкамплектовай школе—$^1/_5$ стаўкі; у трохкамплектовай і чатырохкамплектовай $^7/_{12}$ стаўкі настаўніка на школу.

д) У аднакамплектовых і двухкамплектовых школах тэхнічны працаўнік утрымоўваецца за кошт гаспадарчых выдаткаў.

**5. Сямігадовая школа 0—7.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык школы . . . . . . . . . | 1 | шт. адз. |
| Настаўнікаў для „0“ групы . . . . | 1 | „ „ |
| „ „ I-га канцэнтру . . | $4^7/_{12}$ | „ „ |
| „ „ II-га „ . . | 6 | „ „ |
| Сакратар пэдагагічнай рады . . . . | —$^1/_4$ | „ „ |
| Бібліатэкар . . . . . . . . . . . | —$^1/_4$ | „ „ |
| Справавод . . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| Тэхн. пэрсаналу . . . . . . . . . | 2 | „ „ |
| | $16^1/_{12}$ | шт. адз |

У нацыянальных школах на беларускую мову дадаецца:

| | | |
|---|---|---|
| Настаўнікаў I-га канцэнтру . . . . | 7/12 | шт. адз. |
| „ II-га „ . . . . | 5/9 | „ „ |

**6. Другі канцэнтр сямігодкі 5—7.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык школы . . . . . . . . . | —3/4 | шт. адз. |
| Настаўнікаў . . . . . . . . . . . | 6 | „ „ |
| Сакратар пэдагагічнай рады, ён-жа бібліятэкар . . . . . . . . . | —1/4 | „ „ |
| Справавод . . . . . . . . . . . . | —1/2 | „ „ |
| Тэхн. пэрсанал . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| | 8 1/2 | шт. адз. |

Для нацыянальных школ дадаецца . . . 5/9 наст. стаўкі.

а) За праверку пісьмовых прац на роднай мове на II канцэнтры ўстанаўляецца дадаткова 2 тыднёвыя гадзіны—1/9 наст. стаўкі.

б) Калі ёсьць габінэты, то за загадваньне імі даецца на сямігодку ад 1/6 да 1/2 стаўкі настаўніка II канцэнтру ў залежнасьці ад абсталяваньня і ліку габінэтаў.

в) Паводле навучальнага пляну: для „0“ групы, 1-ай і II-й клясы ўстанаўляецца 24 тыдн. гадзіны працы; III-й клясы—30 гадз.; IV—32 гадзіны; V, VI і VII—36 тыдн. гадзін працы, а ўсяго ў першым канцэнтры сямігодкі разам з нулявою групаю ўстанаўляецца—134 тыднёвых гадзін, а ў II-м канцэнтры—108 тыднёвых гадзін працы.

г) У нацыянальных школах (польскай, яўрэйскай і інш.) на беларускую мову дадаецца: у II-й клясе—5 гадзін, у III-й клясе—5 гадзін, у IV-ай—4 тыднёвых гадзіны; у V-й клясе—3 гадзіны; у VI-ай—3 гадзіны і VII-й—4 гадзіны ў тыдзень, а ўсяго ўстанаўляецца ў нацыянальнай школе з гадзінамі на беларускую мову: у I-м канцэнтры з нулявою групаю—148 тыднёвых гадзін (134+14), а ў II-м канцэнтры—118 тыднёвых гадзін (108+10).

д) За загадваньне кожнаю роўналежнаю групаю, апроч першых 0—7, 1—7 груп, дадаецца 1/10 стаўкі настаўніка II канцэнтру, а за вядзеньне справаводзтва дадаецца за кожную роўналежную групу 1/20 асноўнай стаўкі справавода, але наогул ня больш двух ставак за гэтую працу.

е) У сямігодках з інтэрнатам устанаўляецца 1 штатная адзінка кухаркі.

ж) У фабрычна-заводзкай сямігодцы ў параўнаньні з звычайнаю сямігодкаю дадаецца на працу ў майстэрнях 3/4 шт. адз. інструктара.

з) Пры нармальных сямігадовых школах 0—7, 1—7 устанавіць палову штатнай адзінкі на піанэр-працаўніка.

**7. Вячэрняя школа дарослых падвышанага тыпу і вячэрняя школа рабочай моладзі (240 асоб у кожнай школе).**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык школы . . . . . . . . . . | 1 | шт. адз. |
| Настаўнікаў . . . . . . . . . . . | 6 | „ „ |
| Справавод . . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| Тэхн. пэрсанал . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| | 9 | шт. адз. |

У нацыянальных школах на беларускую мову (2 гадз. на групу) дадаецца . . . . . . . . . . . . . . 3/4 наст. стаўкі.

**8. Навучальна-практыкавальная майстэрня з трохгадовым курсам навучаньня на 90 вучняў.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык | 1 | шт. адз. |
| Настаўнікаў | $3^{2}/_{18}$ | „ „ |
| Інструктароў | 4 | „ „ |
| Тэхн. пэрсанал | $1^{1}/_{2}$ | „ „ |
| | $9^{11}/_{18}$ | шт. адз. |

а) Навучальна-практыкавальная майстэрня будуецца над 4-хгодкаю.

б) Паводле навучальнага пляну Народнага Камісарыяту Асьветы для агульна-адукацыйных прадметаў установулена: у І-ым годзе навучаньня—18 тыдн. гадзін; у ІІ-ім 18 гадзін і ў ІІІ-ім годзе навучаньня—20 гадзін, а ўсяго—56 тыднёвых гадзін. Норма выпрацоўкі, як і ў прафшколе—камплект 18 тыдн. гадзін.

в) У майстэрнях на практычную працу даецца 28 гадзін у тыдзень на групу.

г) У часы працы ў майстэрнях на аднаго інструктара даецца група вучняў з 15 асоб.

## II. Штаты дашкольных устаноў.

**9. Дзіцячы сад на сорак дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык | $^{1}/_{2}$ | шт. адз. |
| Выхавальнікаў | 3 | „ „ |
| Кухарка | 1 | „ „ |
| Прыбіральнікаў | 1 | „ „ |
| | $5^{1}/_{2}$ | шт. адз. |

**10. Дзіцячы сад на 60 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык | 1 | шт. адз. |
| Выхавальнікаў | $4^{1}/_{2}$ | „ „ |
| Кухарка | 1 | „ „ |
| Прыбіральнікаў | 1 | „ „ |
| | $7^{1}/_{2}$ | шт. адз. |

*Увага.* Праца ў садох—6 гадзін у дзень (камплект 24 тыдн. гадзіны).

**11. Дзіцячы дзенны прытулак на сорак дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык | $^{1}/_{2}$ | шт. адз. |
| Выхавальнікаў | 4 | „ „ |
| Кухарка | 1 | „ „ |
| Прыбіральнікаў | 1 | „ „ |
| | $6^{1}/_{2}$ | шт. адз. |

**12. Дзіцячы дзенны прытулак на 60 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык | 1 | шт. адз. |
| Выхавальнікаў | 6 | „ „ |
| Кухарка | 1 | „ „ |
| Прыбіральнікаў | $1^{1}/_{2}$ | „ „ |
| | $9^{1}/_{2}$ | шт. адз. |

*Увага.* 1. Праца ў дзіцячых дзенных прытулках—8 гадз. у дзень (камплект 24 тыдн. гадзіны).

*Увага.* 2. У садох і дзенных прытулках загадчыкі іх загадваюць гаспадаркаю, вядуць справаводзтва і рахункаводзтва.

**13. Школы сялянскай моладзі.**

| | | |
|---|---|---|
| Загадчык школы | 1 | шт. адз. |
| Настаўнікаў | 6 | „ „ |
| Інструктар | 1/2 | (дзе ёсьць майстэрні). |
| Заг. гаспадаркі | 1 | шт. адз. |
| Кухарка | 1 | „ „ |
| Прачка | 1 | „ „ |
| Служыцеляў | 2 | „ „ |
| | 12 1/2 | шт. адз. |

*Увага.* Штат школы сялянскай моладзі зьяўляецца арыентыровачным і можа быць зьменены ў залежнасьці ад мясцовых умоў.

**14.**

**Дзіцячы дом школьнага веку на 50 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Загадчык | 1 | шт. адз. |
| 2. Выхавальнікаў | 3 | „ „ |
| 3. Лекар | 1/4 | „ „ |
| 4. Інструктар | 1 | „ „ |
| 5. Кухарка | 1 | „ „ |
| 6. Прачка | 1 | „ „ |
| 7. Апальнік.-прыбір. | 1 | „ „ |
| | 8 1/4 | шт. адз. |

**Дзіцячы дом школьнага веку на 75 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Загадчык | 1 | шт. адз. |
| 2. Выхавальнікаў | 4 | „ „ |
| 3. Лекар | 1/2 | „ „ |
| 4. Інструктароў | 1 1/2 | „ „ |
| 5. Кухарка | 1 | „ „ |
| 6. Прачка | 1 | „ „ |
| 7. Апальнік.-прыбір. | 1 | „ „ |
| | 10 | шт. адз. |

**15.**

**Дзіцячы дом школьнага веку на 100 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Загадчык | 1 | шт. адз. |
| 2. Выхавальнікаў | 6 | „ „ |
| 3. Лекар | 3/4 | „ „ |
| 4. Інструктароў | 2 | „ „ |
| 5. Кухарка | 1 1/2 | „ „ |
| 6. Прачка | 1 1/2 | „ „ |
| 7. Апальнік.-прыбір. | 1 | „ „ |
| | 13 3/4 | шт. адз. |

**Дзіцячы дом школьнага веку на 125 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Загадчык | 1 | шт. адз. |
| 2. Заг. гасп. (ён-жа рахунк.-справавод) | 1 | „ „ |
| 3. Выхавальнікаў | 7 | „ „ |
| 4. Лекар | 1 | „ „ |
| 5. Інструктароў | 2 1/4 | „ „ |
| 6. Кухарка | 1 1/2 | „ „ |
| 7. Прачак | 2 | „ „ |
| 8. Апальнік. - прыбір. | 1 | „ „ |
| | 16 3/4 | шт. адз. |

**16.**

**Дзіцячы дом школьнага веку на 130 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Загадчык | 1 | шт. адз. |
| 2. Выхавальнікаў | 9 | „ „ |
| 3. Заг. - гасп. (ён-жа рахункав.-справав.) | 1 | „ „ |
| 4. Лекар | 1 | „ „ |
| 5. Інструктароў | 3 | „ „ |
| 6. Кухарак | 2 | „ „ |
| 7. Прачак | 2 1/2 | „ „ |
| 8. Апальнік.-прыбір. | 1 | „ „ |
| | 20 1/2 | шт. адз. |

**Дзіцячы дом школьнага веку на 175 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Загадчык | 1 | шт. адз. |
| 2. Выхавальнікаў | 10 | „ „ |
| 3. Заг. гасп. (ён-жа справ.-рахункав.) | 1 | „ „ |
| 4. Кастэлянша | 1 | „ „ |
| 5. Лекар | 1 | „ „ |
| 6. Інструктароў | 3 1/2 | „ „ |
| 7. Кухарак | 2 | „ „ |
| 8. Прачак | 3 | „ „ |
| 9. Апальнік.-прыбір. | 2 | „ „ |
| | 24 1/2 | шт. адз. |

**17. Дзіцячы дом школьнага веку на 200 дзяцей.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Загадчык . . . . . . . . . . . . . | 1 | шт. адз. |
| 2. Заг. гасп. (ён-жа рахункавод-справавод) . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| 3. Выхавальнікаў . . . . . . . . | 11 | „ „ |
| 4. Кастэлянша . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| 5. Лекар . . . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| 6. Інструктароў . . . . . . . . . | $4\frac{1}{4}$ | „ „ |
| 7. Кухарак . . . . . . . . . . . . | 2 | „ „ |
| 8. Кухон. працаўніц . . . . . . . | 1 | „ „ |
| 9. Прачак . . . . . . . . . . . . . | 3 | „ „ |
| 10. Апальнікаў-прыбіральнікаў . . . | 2 | „ „ |
| | $27\frac{1}{4}$ | шт. адз. |

*Увага.* Калі пры якім-небудзь дзіцячым доме ёсьць школа, то пэдагагічны пэрсанал даецца дадаткова, паводле вуч. праграмы і плянаў у школе.

## III. Штаты лекавых устаноў на раёне.

**1. Больнічны вучастак на 15 ложкаў з амбуляторыяю.**

| | | |
|---|---|---|
| Лекараў . . . . . . . . . . . . . . | 2 | шт. адз. |
| Зубны лекар . . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| Лякарскіх памочнікаў . . . . . . . . | 2 | „ „ |
| Акушорка . . . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| Сясьцёр . . . . . . . . . . . . . . | 2 | „ „ |
| Кухарка . . . . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| Прачка . . . . . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |
| Санітарак . . . . . . . . . . . . . | 4 | „ „ |
| Рабочы па двару, ён-жа конюх . . . | 1 | „ „ |
| Усяго . . | 15 | шт. адз. |

*Увага* 1. Калі ёсьць заразная палата, то да паказанага вышэй штату дадаецца 2 санітаркі.

*Увага* 2. У кожным раёне, дзе ёсьць або арганізуецца дэзынфэкцыйная ўстаноўка, устанаўляецца 1 шт. адз. дэзынфэктара, які знаходзіцца пры больніцы і адначасна выконвае абавязкі загадчыка гаспадаркі больніцы.

*Увага* 3. Калі амбуляторных наведваньняў будзе больш 10.000 у год, то дадаецца $\frac{1}{2}$ адз. санітаркі.

**2. Больнічны вучастак на 20—25 ложкаў з амбуляторыяю.**

Апроч штатаў, устаноўленых для вучасткаў з 15 ложкамі, дадаткова дадаюцца штаты ў наступных выпадках:

1. Калі ёсьць пры вучастку радзільнае аддзяленьне, то дадаецца:

| | | |
|---|---|---|
| Акушорка . . . . . . . . . | 1 | шт. адз. |
| Санітарка . . . . . . . . . | $3\frac{1}{2}$ | „ „ |

2. Калі ёсьць хірургічнае аддзяленьне:

| | | |
|---|---|---|
| Санітарка . . . . . . . . . | 1 | „ „ |

3. Калі ёсьць заразнае аддзяленьне, то дадаткова да 2-х санітар. дадаецца:

| | | |
|---|---|---|
| Сястра . . . . . . . . . . | 1 | „ „ |

4. Калі няма на месцы знаходжаньня вучастку гаспадарчай аптэкі і калі ёсьць больнічная:

| | | |
|---|---|---|
| Фармацэўт . . . . . . . . . | 1 | „ „ |

**3. Лекавая амбуляторыя.**

| | | |
|---|---|---|
| Лекар | 1 | шт. адз. |
| Акушорка | 1 | „ „ |
| Фэльчар | 1 | „ „ |
| Санітар-вартаўнік | 1 | „ „ |
| Усяго | 4 | шт. адз. |

*Увага* 1. Калі ёсьць ці арганізуецца зубны габінэт, то дадаецца да паказанага вышэй штату:

Зубны лекар . . . . . 1

*Увага* 2. Мясцовым органам дазваляецца замест 1 акушоркі мець 2-х.

**4. Фэльчарскі пункт.**

| | |
|---|---|
| Фэльчар | 1 (загадчык пункту). |
| Акушорка | 1 |
| Прыбіральніца | 1 |
| Усяго | 3 |

**5. Раённая кансультацыя.**

| | |
|---|---|
| Загадчык-лекар | 1 |
| Сясьцёр | 2 (мэдычн. і абсьледв.). |
| Санітарка | 1 |
| Усяго | 4 |

**6. Вясковыя ясьлі на 30 ложкаў (на 3-4 месяцы).**

| | |
|---|---|
| Загадчыца | 1 |
| Сястра | 1 |
| Санітаркі-няні | 2 |
| Кухарка-прачка | 1 |
| Усяго | 5 |

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР **А. Калнін.**

12 чэрвеня 1928 г.

---

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

**Пра ўстанаўленьне намэнклятуры тыповых пасад дзяржаўных устаноў БССР, што знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах.**

1. Устанавіць наступную намэнклятуру тыповых пасад усіх дзяржаўных устаноў БССР, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах.

2. Назвы пасад у штатах усіх паказаных устаноў павінны абавязкова адпавядаць намэнклятуры.

*Дадатак:* Намэнклятура.

Народны Камісар Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР **А. Калнін.**

10 ліпеня 1928 г.

*Да датак.*

## Намэнклятура тыповых пасад усіх Дзяржаўных установаў БССР

*(Па дзяржаўным і мясцовым бюджэтах).*

### 1. Кіраўнічы і адміністрацыйны пэрсанал.

1. Народны Камісар.
2. Намесьнік Народнага Камісара.
3. Член Калегіі Народнага Камісарыяту.
4. Упаўнаважаны Народнага Камісарыяту.
5. Намесьнік Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту.
6. Старшыня Выканаўчага Камітэту.
7. Намесьнік Старшыні Выканаўчага Камітэту.
8. Прадстаўнік Рэспублікі.
9. Старшыня } Камітэту, савету, калегіі, кіраўніцтва, камісіі, прэзыдыуму, бюро, дэлегацыі.
10. Намесьнік старшыні } " "
11. Член } " "
12. Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады.
13. Начальнік Кіраўніцтва.
14. Памочнік Начальніка Кіраўніцтва.
15. Загадчык (ці Начальнік) Аддзелу, Сэктару (Народнага Камісарыяту, установы).
16. Памочнік Загадчыка (ці начальніка) Аддзелу, Сэктару, (Народнага Камісарыяту, установы).
17. Загадчык мясцовага адміністрацыйнага органу (загадчык аддзелу).
18. Памочнік загадчыка мясцовага адміністрацыйнага органу (пам. загадчыка аддзелу).
19. Інспэктар (адказны выканаўца Народнага камісарыяту, установы).
20. Акруговы Інспэктар.
21. Сакратар Народнага Камісарыяту (акруговай установы).
22. Загадчык (начальнік ці кіраўнік) часткі, аддзяленьня, (аддзелу ці сэкцыі).
23. Інжынэр (рэспубліканскі, акруговы).
24. Памочнік інжынэра (рэспубліканскага, акруговага).
25. Рэктар.
26. Прарэктар.
27. Дэкан.
28. Намесьнік Дэкана.
29. Член Дэканату.
30. Загадчык (дырэктар) навуковай установы.
31. Намесьнік загадчыка (дырэктара) навуковай установы.
32. Загадчык (дырэктар, кіраўнік, начальнік) установы (школьнай, палітасьветнай, лячэбнай і інш.).
33. Памочнік загадчыка (дырэктара, кіраўніка, начальніка) установы (школьнай, палітасьветнай, лячэбнай і інш.).
34. Загадчык (дырэктар, кіраўнік) прадпрыемства (гандлёвага, сельска-гаспадарчага, банкаўскага, тэатральнага і інш.).
35. Намесьнік загадчыка (дырэктара, кіраўніка) прадпрыемства.

36. Упаўнаважаны (давераны) установы.
37. Начальнік міліцыі.
38. Памочнік начальніка міліцыі.
39. Начальнік пажарнай аховы гораду (брандмайор).
40. Памочнік начальніка пажарнай аховы гораду (памочнік брандмайора.
41. Адміністратар тэатру.

**II. Арганізацыйна-інструктарскі-інспэктарскі пэрсонал.**

1. Ст. інспэктар.
2. Інспэктар.
3. Памочнік інспэктара.
4. Інструктар.
5. Рэвізор.
6. Агэнт (фінансавы, жылішчнай справы, зямельны, па перасяленьні).

**III. Плянава-кансультацыйны і навуковы пэрсонал.**

1. Кансультант.
2. Вучоны спэцыяліст.
3. Экспэрт.
4. Навуковы супрацоўнік.
5. Юрысконсульт.
6. Асьпірант.
7. Навукова-тэхнічны супрацоўнік.
8. Навуковы сакратар.
9. Эканаміст
10. Інжынэр.
11. Старшыня (загадчык) аддзелу, аддзяленьня, камісіі, навукова-дапаможнай установы. (у навуковых установах).
12. Загадчык катэдры Інбелкульту.

**IV. Канцэлярска-справаводны пэрсанал.**

1. Тэхнічны сакратар.
2. Ст. справавод.
3. Справавод.
4. Інфарматар.
5. Стэнаграфіст-ка.
6. Канторшчык.
7. Рэгістратар.
8. Рэестрант.
9. Капіроўшчык.
10. Машыністка.
11. Архіварыус.
12. Дзяжурны.
13. Экспэдытар.

**V. Рахункова-бухгальтарскі пэрсанал.**

1. Галоўны бухгальтар.
2. Старшы бухгальтар.
3. Бухгальтар.
4. Памочнік бухгальтара.
5. Рахункавод.
6. Ст. кантралёр.
7. Кантралёр.
8. Памочнік кантралёра.
9. Старшы касір.
10. Касір.
11. Вылічальнік (шчотчык).
12. Табельшчык.

**VI. Статыстычны пэрсонал.**

1. Старшы статыстык.
2. Статыстык.
3. Шчотчык (шчотчык-вылічальнік).

**VII. Пэрсанал аховы.**

*(Ахова, міліцыя, крымінальны вышук, мясцы зьняволеньня).*

1. Старшы вартаўнік.
2. Вартаўнік.
3. Вучастковы наглядчык.
4. Старшы міліцыянэр.
5. Міліцыянэр.
6. Старшы наглядчык месц зьняволеньня.
7. Аддзялённы наглядчык месц зьняволеньня.
8. Няглядчык месц зьняволеньня.
9. Агэнт крымінальнага вышуку.

### VIII. Гаспадарча-абслугоўваючы пэрсанал.

1. Загадчык гаспадаркі.
2. Памочнік загадчыка гаспадаркі.
3. Агэнт.
4. Даглядач дому (кіраўнік, загадчык ці камэндант дому).
5. Загадчык складу.
6. Кладаўшчык.
7. Камэндант установы.
8. Шофэр.
9. Памочнік шофэра.
10. Фурман.
11. Конюх.
12. Возчык.
13. Кур'ер.
14. Прыбіральнік.
15. Швэйцар.
16. Дворнік.
17. Вартаўнік.
18. Апальнік.
19. Апальнік паравога апалу.
20. Касьтэлянша.
21. Эканомка.
22. Кухар.
23. Памочнік кухара.
24. Кухарка.
25. Кухонны рабочы.
26. Пасудамыя.
27. Афіцыянтка.
28. Пекар.
29. Ст. прачка.
30. Прачка.
31. Ст. служыцель.
32. Служыцель.
33. Манцёр.
34. Білетны кантралёр.
35. Парыкмахэр.
36. Швея.

### IX. Культасьветны пэрсанал.

1. Прафэсар.
2. Дацэнт.
3. Старшы асыстэнт.
4. Асыстэнт.
5. Загадчык габінэту.
6. Загадчык навучальнай часткі.
7. Сакратар пэдагагічнай рады.
8. Выкладчык.
9. Настаўнік.
10. Выхавальнік-ніца.
11. Загадчык хаты-чытальні.
12. Інструктар вучэб. майстэрні.
13. Артысты.
14. Дырыжэр.
15. Памочнік дырыжэра.
16. Рэжысэр.
17. Памочнік рэжысэра.
18. Дэкаратар.
19. Мастак-пастаноўшчык.
20. Бібліятэкар.
21. Памочнік бібліятэкара (старшы, малодшы).
22. Бібліятэчны супрацоўнік.
23. Карэктар.
24. Рэдактар.
25. Кіраўнік гуртка.

### X. Мэдычна-санітарны пэрсанал.

1. Старшы ардзінатар.
2. Лекар-ардзінатар.
3. Санітарны лекар.
4. Лекар (па розных спэцыяльнасьцях).
5. Зубны лекар (ардзінатар).
6. Зубны лекар (пратэзіст).
7. Фэльчар.
8. Акушорка.
9. Сястра (брат) мэдычная.
10. Сястра-абсьледчыца.
11. Масажыстка.
12. Прэпаратар.
13. Загадчык аптэкі.
14. Аптэчны асыстэнт
15. Пультрант.
16. Фасаўшчык.
17. Вэтэрынарны лекар.
18. Вэтэрынарны фэльчар.
19. Нянька.
20. Карміліца.
21. Санітар.
22. Дэзынфэктар.

### XI. Сельска-гаспадарчы пэрсанал.

1. Аграном (акруговы, раённы, аграном-садавод, аграном-жывёлавод, аграном-палявод і інш.).

2. Тэхнік (памочнік агранома, тэхнік па ільнаводзтву, тэхнік-сэлекцыянэр, пчаляр, тэхнік-пчаляр, тэхнік-жывёлавод і інш.).

3. Трактарыст.
4. Садоўнік.
5. Гароднік.
6. Мэт. наглядчык.
7. Вылічальнік (па мэтаралёгіі, гідралёгіі і гідрамэтрыі).
8. Наезднік-жакей.
9. Трэнёр.
10. Скотнік-ца.
11. Пастух.
12. Кантроль-асыстэнт.
13. Начальнік (загадчык) партыі (вышукальнай, зямляўпарадчай, леўпарадчай, гідратэхнічнай).
14. Памочнік начальніка (загадчыка) партыі.
15. Гідратэхнік.
16. Памочнік гідратэхніка.
17. Ст. драгэр-машыніст.
18. Драгэр-машыніст.
19. Памочнік драгэра-машыніста (качагар).
20. Ст. культуртэхнік.
21. Культуртэхнік.
22. Памочнік культуртэхніка.
23. Ст. торф-майстар.
24. Торфмайстар.
25. Памочнік торфмайстра.
26. Ст. гідрамэтр і гідралёг.
27. Гідрамэтр.
28. Пам. гідрамэтра.
29. Тэхнік па сельскім будаўніцтве.
30. Канструктар па сельскім будаўніцтве.
31. Тэхнік па сельскім забясьпечаньні вадою.
32. Лесавод.
33. Лясьнічы.
34. Пам. лясьнічага.
35. Аб'ездчык (лясны тэхнік).
36. Лясьнік (лясны вартаўнік).
37. Культнаглядчык.
38. Таксатар.
39. Памочнік таксатара.
40. Зямляўпарадчык.
41. Тэхнік-зямляўпарадчык.

## XII. Судова-пракурорскі пэрсанал.

1. Пракурор (Рэспублікі, акругі, пракурор Народнага Камісарыяту Юстыцыі і інш.).
2. Памочнік Пракурора.
3. Натарыус.
4. Старшыня суда.
5. Намесьнік старшыні суда.
6. Член суда.
7. Старшыня Калегіі суда.
8. Сьледчы па важнейшых справах.
9. Ст. сьледчы.
10. Сьледчы.
11. Народны судзьдзя.
12. Судовы выканавец.
13. Судовы распарадчык.

## XIII. Розныя.

1. Ст. спэцыяліст [1]).
2. Спэцыяліст [1]).
3. Тэхнік. [1]).
4. Практыкант.
5. Стажор.
6. Перакладчык.
7. Ляборант.
8. Начальнік пажарнай часьці (брандмэйстэр).
9. Старшы пажарны.
10. Пажарны.
11. Кіраўнік работамі.
12. Ст. кіраўнік работ (будаўнічых, гідратэхнічных, зямляўпарадчых і інш.).
13. Кіраўнік работ.
14. Ст. майстар.
15. Майстар.
16. Падмайстар (памочнік майстра).
17. Падручны.
18. Мэханік.

---

[1]) Ва ўсіх выпадках ужываньня працы спэцыялістых, калі немагчыма ім даваць назвы пасад загадчыкаў аддзелаў, п/аддзелаў, аддзяленьняў, кансультантаў, інспэктароў ці інструктароў, даваць назвы фактычнай іх спэцыяльнасьці па прафэсіянальных адзнаках падзяляючы іх на:

а) старшых інжынэраў, аграномаў, біолёгаў, гідратэхнікаў, лекараў, эканамістых і інш.;

б) проста: інжынэраў, аграномаў, біолёгаў, лекараў, эканамістых і інш.;

в) тэхнікаў па розных спэцыяльнасьцях.

19. Фатограф.
20. Грымёр.
21. Вучань.
22. Вокладчык.
23. Брашуроўшчык.
24. Літограф.
25. Бутафор.
26. Рэквізітар.
27. Дакцыласкапіст.
28. Дрэсіроўшчык.
29. Дзесятнік.
30. Прабірэр.
31. Клеймільшчык.
32. Правяральнік мерак і ваг.
33. Рысавальнік.
34. Кваліфікаваны рабочы [1]).
35. Чорнарабочы.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### Пра ўжываньне новай каштарыснай намэнклятуры ў мясцовым бюджэце на 1928-29 г.

На 1928-29 бюджэтны год зацьверджана дададаная да гэтага абежніку каштарысная намэнклятура ў мясцовым бюджэце і інструкцыя аб ужываньні гэтай намэнклятуры.

Прапануецца ўсім установам пры складаньні мясцовых бюджэтаў на 1928-29 г. кіравацца гэтаю намэнклятураю.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **Л. Бунін.**

Начальнік Бюджэтнага Кіраўніцтва **А. Сьцепанюк.**

26 ліпеня 1928 г.
№ 5001-15.

---

*Дадатак 1.*

Зацьверджана Намесьнікам Народнага Камісара Фінансаў СССР Кузьняцовым 20 чэрвеня 1928 году.

## Каштарысная намэнклятура ў мясцовым бюджэце на 1928-29 год.

### А. Выдатковая частка.

**Разьдзел I. Мясцовыя саветы і выканаўчыя камітэты.**

§ 1. Выканаўчыя камітэты.
§ 2. Гарадзкія саветы.
§ 3. Сельскія саветы.
§ 4. Арбітражныя камісіі.
§ 5. Архіўныя бюро.
§ 6. Курсы і школы падрыхтоўкі адміністрацыйных працаўнікоў.
§ 7. Плянавыя органы.
§ 8. Кіраўніцтва інжынэраў.
§ 9. Саветы фізычнай культуры.
§ 10. Выданьне справаздач, зборнікаў і інш.

**Разьдзел II. Адміністрацыйныя аддзелы і ахова грамадзкага парадку.**

§ 1. Адміністрацыйныя аддзелы.
§ 2. Міліцыя і арыштныя дамы.
§ 3. Ведамсьцьвенная міліцыя.
§ 4. Крымінальны вышук.
§ 5. Папраўныя ўстановы і прадпрыемствы пры іх.

---

[1]) Ва ўсіх выпадках ўжываньня працы кваліфікаваных рабочых і чорнарабочых, назва іх пасад, паводле тарыфнага даведніка прафэсіянальнага саюзу.

**Разьдзел III. Органы юстыцыі.**

§ 1. Народныя суды і іх асобныя сэсіі па працоўных справах.
§ 2. Народныя сьледчыя.

**Разьдзел IV. Народная асьвета.**

§ 1. Аддзелы народнай асьветы.
§ 2. Сярэднія прафэсіянальныя школы.
§ 3. Ніжэйшыя прафэсіянальныя школы.
§ 4. Пазашкольная прафэсіянальная асьвета.
§ 5. Працоўныя факультэты.
§ 6. Школы першага канцэнтру.
§ 7. Школы падлеткаў.
§ 8. Школы другога канцэнтру.
§ 9. Школы сямігодкі і дзевяцігодкі.
§ 10. Школы сялянскай моладзі.
§ 11. Дзіцячыя дамы.
§ 12. Установы і мерапрыемствы сацыяльна-праўнай аховы няпаўналетніх.
§ 13. Мерапрыемствы для змаганьня з дзіцячаю беспрытульнасьцю.
§ 14. Дзіцячыя сады, прытулкі і пляцоўкі.
§ 15. Мерапрыемствы для ліквідацыі няпісьменнасьці.
§ 16. Бібліатэкі і хаты-чытальні.
§ 17. Палітыка-асьветныя ўстановы і мерапрыемствы.
§ 18. Музэйныя ўстановы.
§ 19. Навуковыя і навукова-мастацкія ўстановы.
§ 20. Стыпэндыя і дапамога вучням.
§ 21. Перападрыхтоўка працаўнікоў асьветы.
§ 22. Прадпрыемствы, што адмініструюцца органамі народнай асьветы.

**Разьдзел V. Ахова здароўя.**

§ 1. Аддзелы аховы здароўя.
§ 2. Больніцы (лячэбніцы).
§ 3. Амбуляторыі, лекарскія пункты, хуткая дапамога, зубалячэбныя габінэты.
§ 4. Фэльчарскія пункты.
§ 5. Курорты, санаторыі, здраўніцы.
§ 6. Ахова мацяры і дзіцяці і здароўя дзяцей.
§ 7. Бактэрыялёгічныя інстытуты, лябараторыі і пастэраўскія станцыі.
§ 8. Санітарна-пошасныя ўстановы і мерапрыемствы.
§ 9. Установы для змаганьня з сацыяльнымі хваробамі (вэнер., сухот. установы, малярыйныя станцыі і інш.).
§ 10. Санітарна-асьветныя мерапрыемствы.
§ 11. Перападрыхтоўка працаўнікоў аховы здароўя.
§ 12. Прадпрыемствы, што адмініструюцца органамі аховы здароўя.

**Разьдзел VI. Сацыяльнае забясьпечаньне.**

§ 1. Аддзелы сацыяльнага забясьпечаньня.
§ 2. Выдача субсыдый сялянскім і адпаведным ім органам грамадзкай узаемадапамогі.
§ 3. Установы для інвалідаў.
§ 4. Мерапрыемствы для інвалідаў.
§ 5. Установы і мерапрыемствы для змаганьня з жабрацтвам і прастытуцыяю.

§ 6. Пэрсанальныя пэнсіі і дапамогі.

§ 7. Пэнсіі інвалідам вайны, іх сем'ям і сем'ям загінуўшых на вайне.

§ 8. Дапамога сем'ям асоб, узятых у Рабоча-Сялянскую Чырвоную армію.

§ 9. Прадпрыемствы, што адміструюцца органамі сацыяльнага забясьпечаньня.

**Разьдзел VII. Ахова працы.**

§ 1. Удзел у арганізацыі грамадзкіх работ, прадпрыемстваў і працоўных калектываў беспрацоўных.

§ 2. Інтэрнат і сталоўкі для беспрацоўных.

**Разьдзел VIII. Сельская гаспадарка.**

§ 1. Зямельныя кіраўніцтвы і зямельныя камісіі.

§ 2. Агранамічная і заатэхнічная сетка.

§ 3. Дасьледчыя ўстановы па сельскай гаспадарцы.

§ 4. Установы і мерапрыемствы для палепшаньня і разьвіцьця зямляробства і расьлінаводзтва.

§ 5. Змаганьне з шкоднікамі сельскай гаспадаркі.

§ 6. Установы і мерапрыемствы для разьвіцьця жывёлагадоўлі.

§ 7. Вэтэрынарная сетка.

§ 8. Вэтэрынарныя, вэтэрынарна-бактэрыолёгічныя і вэтэрынарна-санітарныя ўстановы і мерапрыемствы.

§ 9. Змаганьне з эпізаотыямі.

§ 10. Мерапрыемствы па мэліарацыі.

§ 11. Зямельная маемасьць мясцовага значэньня.

**Разьдзел IX. Мясцовая прамысловасьць.**

§ 1. Саветы народнай гаспадаркі.

§ 2. Прамысловыя прадпрыемствы, неперададзеныя на гаспадарчы разрахунак.

§ 3. Кансэрваваныя прадпрыемствы.

§ 4. Фінансаваньне мясцовай прамысловасьці.

**Разьдзел X. Камунальная гаспадарка.**

§ 1. Аддзелы камунальнай і мясцовай гаспадаркі.

§ 2. Муніцыпалізаваныя жылыя дамы і памяшканьні.

§ 3. Гандлёва-прамысловыя памяшканьні, склады і крытыя рынкі.

§ 4. Выдаткі на дабрабыт.

§ 5. Супроцьпажарная ахова.

§ 6. Гарадзкая зямельная гаспадарка (сады, гароды, лясы, ворныя палі, сенажаці, выганы, агульнакарысныя капальні і інш.).

**Разьдзел XI. Камунальныя прадпрыемствы.**

§ 1. Вадаправод (у тым ліку артэзіянскія студні і вадаразборныя будкі).

§ 2. Каналізацыя.

§ 3. Асэнізацыйны абоз.

§ 4. Газавыя заводы.

§ 5. Трамваі і гарадзкія конкі.

§ 6. Аўтабусы і таксаматоры.

§ 7. Электрычныя станцыі.

§ 8. Параходзтвы і рачныя пераправы ў межах залюдненых пунктаў.

§ 9. Рэзьніцы і халадарэзьніцы.

§ 10. Транспартны абоз.

§ 11. Іншыя камунальныя прадпрыемствы, непераведзеныя на гаспадарчы разрахунак.

§ 12. Фінансаваньне камунальных прадпрыемстваў, перададзеных на гаспадарчы разрахунак.

**Разьдзел XII. Шляхі і сродкі сувязі.**

§ 1. Будаваньне і ўтрыманьне дарог і дарожных пабудоў.

§ 2. Будаваньне і ўтрыманьне рачных перапраў не ў гарадзкіх пасяленьнях.

§ 3. Ямшчына, паштовая ганьба, кальцавая пошта і інш.

§ 4. Удзел у мерапрыемствах для будаваньня і разьвіцьця тэлефонных сетак.

**Разьдзел XIII. Удзел у гаспадарчых выдатках часьцей і ўстаноў ваеннага ведамства і Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы.**

§ 1. Удзел у гаспадарчых выдатках часьцей і ўстаноў ваеннага ведамства і Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы.

**Разьдзел XIV. Адлічэньні ў спэцыяльныя фонды і капіталы.**

§ 1. У фонд рабочага каперацыйнага жылішчнага будаўніцтва.
§ 2. „ спэцыяльны капітал жылішчнага фонду.
§ 3. „ камунальны фонд.
§ 4. „ амартызацыйны фонд камунальных прадпрыемстваў.
§ 5. „ фонд крэдытаваньня мясцовай прамысловасьці.
§ 6. „ рэспубліканскі дарожны фонд.
§ 7. „ мясцовыя дарожныя фонды.
§ 8. „ школьны будаўнічы фонд.
§ 9. „ фонд імя У. І. Леніна (дапамогі бяспрытульным дзецям).
§ 10. „ фонд дапамогі бядняцкаму насельніцтву.
§ 11. На ўтварэньне рэзэрву ў мясцовым бюджэце.

**Разьдзел XV. Асобныя выдаткі.**

§ 1. Фонд на папаўненьне непрадбачаных выдаткаў.
§ 2. Выплата даўгоў, пазычак і працантаў.
§ 3. Набываньне паёў і акцый.
§ 4. Зварот сум, якія няправільна паступілі ў мясцовыя сродкі.

§ 5. Страты па рэалізацыі каштоўных папер і натуральных фондаў, касавыя пралікі.

§ 6. Выдача субсыдый пэрыядычнаму друку.
§ 7. Удзел у выдатках на электрыфікацыю краіны.

§ 8. Выдаткі раённых выканаўчых камітэтаў на зьбіраньне акладных страхавых плацяжоў.

§ 9. Выдача доўгатэрміновых пазычак.
§ 10. Выдача кароткатэрміновых пазычак.

§ 11. Выдаткі на задаваленьне патрэб мясцовай гаспадаркі, аднесеных на мясцовыя сродкі паводле арт. 115 Палажэньня пра мясцовыя фінансы РСФСР.

**Разьдзел XVI. Выплата задоўжанасьці.**

§ 1. Мясцовыя саветы і выканаўчыя камітэты.
§ 2. Адміністрацыйныя аддзелы і ахова грамадзкага парадку.
§ 3. Органы юстыцыі.
§ 4. Народная асьвета.
§ 5. Ахова здароўя.
§ 6. Сацыяльнае забясьпечаньне.

§ 7. Ахова працы.
§ 8. Сельская гаспадарка.
§ 9. Мясцовая прамысловасьць.
§ 10. Камунальная гаспадарка.
§ 11. Камунальныя прадпрыемствы, неперададзеныя на гаспадарчы разрахунак.
§ 12. Шляхі і сродкі сувязі.
§ 13. Удзел у гаспадарчых выпадках часьцей і ўстаноў ваеннага ведамства і органаў Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы.

**Разьдзел XVII. Адлічэньні ў мясцовыя фонды рэгуляваньня.**

§ 1. У рэспубліканскія (аўтаномных рэспублік), краёвыя, абласныя фонды рэгуляваньня.
§ 2. У губэрскія, акруговыя фонды рэгуляваньня.
§ 3. У павятовыя фонды рэгуляваньня.

**Разьдзел XVIII. Адлічэньні ў фонд рэгуляваньня саюзных рэспублік.**

§ 1. Ад адлічэньняў сельска-гаспадарчага падатку.
§ 2. Ад адлічэньняў прамысловага падатку.
§ 3. Ад адлічэньняў лясных даходаў.

**Разьдзел XIX. Выдаткі па ірыгацыі.**

§ 1. Выдаткі на ўтрыманьне нізавога апарату вода-гаспадарчых установ у сельскіх мясцовасьцях.
§ 2. Выдаткі па эксплёатацыі воднай сеткі ў сельскіх мясцовасьцях.
§ 3. Выдаткі на ірыгацыю ў гарадох.

## Б. Даходная часьць.

**Разьдзел I. Астачы бюджэтных сродкаў.**

**Разьдзел II. Даходы па сельскай гаспадарцы.**

§ 1. Савецкія гаспадаркі.
§ 2. Лугавыя фонды.
§ 3. Сады і гароды, вінаграднікі і вінаробства.
§ 4. Іншыя зямельныя ўжыткі (землі, нэтры, агульнакарысныя выкапні, лясы, выганы і інш.).
§ 5. Дзяржаўны вольны зямельны запас.
§ 6. Ад рыбнай гаспадаркі (рыбныя лоўлі і інш.).
§ 7. Лесараспрацоўкі лясных аддзелаў і зямельных кіраўніцтваў.
§ 8. Ад пабочных карыстаньняў у лясох.
§ 9. Ад установ і мерапрыемстваў па хлебаробству, гадоўлі жывёлы і вэтэрынарыі.

Парáграфы дзеляцца на артыкулы:
арт. 1. Адлічэньні ад прыбыткаў.
арт. 2. Агульны даход.
арт. 3. Арэндная плата.

**Разьдзел III. Даходы ад прамысловасьці і гандлю.**

§ 1. Прамысловыя прадпрыемствы.
§ 2. Гандлёвыя прадпрыемствы.

Параграфы дзеляцца на артыкулы:
арт. 1. Адлічэньні ад прыбыткаў.
арт. 2. Агульны даход.
арт. 3. Арэндная плата.

**Разьдзел IV. Даходы ад камунальнай маемасьці і аброчных артыкулаў.**

§ 1. Муніцыпалізаваныя жылыя дамы і памяшканьні.

§ 2. Гандлёва-прамысловыя памяшканьні, склады, крытыя рынкі.

§ 3. Месцы для гандлю.

§ 4. Гарадзкая зямельная гаспадарка (сады, гароды, лясы, сенажаці, выганы, пашні, агульна-карысныя выкапні, гарадзкія рыбныя лоўлі і іншыя забудаваныя і незабудаваныя гарадзкія землі).

§ 5. Даходы ад іншай камунальнай маемасьці і аброчных артыкулаў.

Параграфы дзеляцца на артыкулы:

арт. 1. Адлічэньне ад прыбыткаў.
арт. 2. Агульны даход.
арт. 3. Арэндная плата.

**Разьдзел V. Даходы ад камунальных прадпрыемстваў.**

§ 1. Вадаправод.
§ 2. Каналізацыя.
§ 3. Асэнізацыйны абоз.
§ 4. Газавыя заводы.
§ 5. Трамваі і гарадзкія конкі.
§ 6. Аўтабусы і таксматоры.
§ 7. Электрычныя станцыі.
§ 8. Параходзтва і рачныя пераправы.
§ 9. Рэзьніцы і холадарэзьніцы.
§ 10. Транспартны абоз.
§ 11. Іншыя камунальныя прадпрыемствы.
§ 12. Камунальныя трэсты і камбінаты.

Параграфы дзеляцца на артыкулы:

арт. 1. Адлічэньні ад прыбыткаў.
арт. 2. Агульны даход.
арт. 3. Арэндная плата.

**Разьдзел VI. Даходы ад рознай маемасьці, устаноў, прадпрыемстваў і мерапрыемстваў, апроч сельска-гаспадарчых, камунальных і мясцовай прамысловасьці.**

§ 1. Ад устаноў і мерапрыемстваў, якія знаходзяцца пад кіраўніцтвам адміністрацыйных органаў і органаў аховы грамадзкага парадку.

§ 2. Ад устаноў і мерапрыемстваў, якія знаходзяцца пад кіраўніцтвам органаў народнай асьветы.

§ 3. Ад устаноў і мерапрыемстваў, якія знаходзяцца пад кіраўніцтвам органаў аховы здароўя.

§ 4. Ад устаноў і мерапрыемстваў, якія знаходзяцца пад кіраўніцтвам органаў сацыяльнага забясьпечаньня.

§ 5. Ад устаноў і мерапрыемстваў, якія знаходзяцца пад кіраўніцтвам органаў аховы працы.

§ 6. Ад мерапрыемстваў для падтрыманьня сувязі (ямшчына, паштовая ганьба, радыё і інш.).

§ 7. Процанты з грашовых капіталаў і процантных папер, дывідэнд на паі і акцыі.

§ 8. Ад рэалізацыі дзяржаўных фондаў мясцовага значэньня.

Параграфы дзеляцца на артыкулы:

арт. 1. Адлічэньні ад прыбыткаў.
арт. 2. Агульны даход.
арт. 3. Арэндная плата.

**Разьдзел VII. Розныя паступленьні.**

§ 1. Спагнаньні і штрафы.
§ 2. Зварот пазычак.
§ 3. Іншыя паступленьні.

**Разьдзел VIII. Мясцовыя падаткі і зборы.**

§ 1. Падатак з будынкаў.
§ 2. Падатак з цяжараў, якія прывозяцца і вывозяцца па чыгунках і водных шляхох.
§ 3. Падатак з біржавых угод.
§ 4. Падатак з золатапрамысловых прадпрыемстваў.
§ 5. Мэтавы кватэрны падатак.
§ 6. Збор з драўніны, якая адпушчаецца з лясных дач.
§ 7. Падатак з транспартных сродкаў.
§ 8. Падатак з жывёлы ў гарадзкіх паселішчах.
§ 9. Збор за вэтэрынарна-санітарны агляд жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў.
§ 10. Падатак з наведчыкаў публічных відовішчаў і забаў у гарадзкіх паселішчах.
§ 11. Збор з наведчыкаў устаноў для спажываньня на месцы ўсялякіх страў і напіткаў і з асоб, што жывуць у гасьцініцах.
§ 12. Збор з наведчыкаў казіно, лото, рулеткі, мэханічных тоталізатараў і іншых прадпрыемстваў для гульняў.
§ 13. Збор з асоб, што прыяжджаюць у лячэбныя мясцовасьці.
§ 14. Прапісачны збор.
§ 15. Падатак з плякатаў, афіш, рэклям і абвестак.
§ 16. Падатак з ліцытацый.
§ 17. Разавы збор.
§ 18. Збор з прамысловых садоў і гародаў.
§ 19. Збор за пашу замежнай жывёлы, што прыганяецца з Аўганістану і Пэрсіі (пачэвы збор).
§ 20. Збор з заяў за перамену прозьвішч.
§ 21. Збор з асоб, пазбаўленых права быць сельскімі выканаўцамі.
§ 22. Збор за выдачу выпісаў і даведак з мэтрычных рэгістрацыйных кніг.
§ 23. Рэнта з гарадзкіх зямель.

*Увага.* Далейшая нумарацыя дадатковых §§, што вынікаюць з заканадаўства саюзных рэспублік, устанаўляецца Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу, па згодзе з народнымі камісарыятамі фінансаў адпаведных саюзных рэспублік.

**Разьдзел IX. Набаўкі да дзяржаўных падаткаў і збораў.**

§ 1. Да дзяржаўнага прамысловага падатку.
§ 2. Да падаходнага падатку.
§ 3. Да судовай пошліны.
§ 4. Да платы, якая бярэцца адпаведнымі органамі за ўчыненьне натарыяльных дзеяньняў.
§ 5. Да дзяржаўнага паляўнічага збору.

**Разьдзел X. Адлічэньні ад дзяржаўных падаткаў.**

§ 1. Ад сельска-гаспадарчага падатку.
§ 2. Ад дзяржаўнага прамысловага падатку.
§ 3. Ад падатку з маемасьці, што пераходзіць у парадку спадчыны і дараваньня.
§ 4. Адлічэньні ад дзяржаўнага рэгістрацыйнага збору з пазабіржавых угод.

### Разьдзел XI. Адлічэньні ад дзяржаўных даходаў.

§ 1. Ад лясных даходаў.

§ 2. Ад даходаў па эксплёатацыі маемасьці агульнадзяржаўнага значэньня.

§ 3. Ад эксплёатацыі торпавых балот агульнадзяржаўнага значэньня.

§ 4. Ад даходаў па здачы ў арэнду рыбапрамысловых і марскіх зьверапрамысловых ужыткаў агульна-дзяржаўнага значэньня.

§ 5. Ад чыстага прыбытку дзяржаўнага страхаваньня.

§ 6. Ад рэалізацыі дзяржаўных фондаў рэспубліканскага значэньня.

§ 7. Ад прыбытку мандатных прадпрыемстваў.

§ 8. Ад прыбытку дзяржаўных органаў саюзнага і рэспубліканскага значэньня і акцыйных т-ваў з выключным удзелам дзяржаўнага капіталу па апярацыях загатоўкі і збыту сырцу.

§ 9. Судовыя пошліны, што бяруцца ў судовых установах, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце.

§ 10. Збор за натарыяльныя дзеяньні, што выконваюцца ўстановамі, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце.

### Разьдзел XII. Зварот выдаткаў з агульнадзяржаўных сродкаў.

§ 1. Зварот выдаткаў з агульнадзяржаўных сродкаў.

### Разьдзел XIII. Дапамога з агульнадзяржаўных сродкаў.

§ 1. Субвэнцыя:
- арт. 1. На настаўніцкі пэрсанал.
- арт. 2. На лекарскі і сярэдні мэдычны пэрсанал.
- арт. 3. На агранамічны і вэтэрынарны пэрсанал.
- арт. 4. На дарожнае будаўніцтва.
- арт. 5. На школьнае будаўніцтва.
- арт. 6. На больнічнае будаўніцтва.
- арт. 7. На агранамічнае будаўніцтва.
- арт. 8. На вэтэрынарнае будаўніцтва.

§ 2. Мэтавыя дапамогі.

§ 3. Датацыя.

### Разьдзел XIV. Мэтавыя дапамогі з спэцыяльных фондаў і капіталаў.

§ 1. З фонду рабочага каперацыйнага жылішчнага будаўніцтва

§ 2. З спэцыяльнага капіталу жылішчнага фонду.

§ 3. З камунальнага фонду.

§ 4. З амартызацыйнага фонду камунальных прадпрыемстваў.

§ 5. З фонду крэдытаваньня мясцовай прамысловасьці.

§ 6. З рэспубліканскага дарожнага фонду.

§ 7. З мясцовых дарожных фондаў.

§ 8. З школьнага будаўнічага фонду.

§ 9. З фонду імя У. І. Леніна.

§ 10. З рэзэрваў у мясцовым бюджэце.

### Разьдзел XV. Дапамога з іншых крыніц.

§ 1. Мэтавыя дапамогі на ўтрыманьне ведамственнай міліцыі.

§ 2. Плата раённых выканаўчых камітэтаў за зьбіраньне абкладных страхавых плацяжоў.

§ 3. Асыгнаваньне з фонду СНК на папаўненьне выдаткаў на ірыгацыю.

**Разьдзел XVI. Пазычкі.**

§ 1. Доўгатэрміновыя пазычкі:
арт. 1. На жылішчнае будаўніцтва.
арт. 2. На патрэбы камунальных прадпрыемстваў.
арт. 3. На патрэбы мясцовай прамысловасьці.
арт. 4. На дарожнае будаўніцтва.
арт. 5. На школьнае будаўніцтва.
арт. 6. На больнічнае будаўніцтва.
арт. 7. На іншыя мерапрыемствы.

*Увага.* Далейшы падзел устанаўляецца Народным Камісарыятам Фінансаў СССР у адпаведнасьці з прызначэньнямі пазычак пасьля папярэдняга ўзгадненьня з народнымі камісарыятамі фінансаў саюзных рэспублік.

§ 2. Кароткатэрміновыя пазычкі.

**Разьдзел XVII. Дапамога з мясцовых фондаў рэгуляваньня.**

§ 1. З рэспубліканскіх (аўтаномных рэспублік), краёвых, абласных фондаў рэгуляваньня.
§ 2. З губэрскіх, акруговых фондаў рэгуляваньня.
§ 3. З павятовых фондаў рэгуляваньня.

**Разьдзел XVIII. Дапамога з фонду рэгуляваньня саюзнай рэспублікі.**

§ 1. На збалянсаваньне бюджэту.
§ 2. Мэтавыя дапамогі.

*Увага.* § 2 падзяляецца ў адпаведнасьці з прызначэньнем дапамог на артыкулы пасьля ўзгадненьня з Народным Камісарыятам Фінансаў СССР.

---

*Дадатак 2.*

Зацьверджана Нам. Народнага Камісара Фінансаў СССР Кузьняцовым 25 чэрвеня 1928 г.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР пра ўжываньне каштарыснай намэнклятуры ў мясцовым бюджэце на 1928-29 г.

Унясеньне ў каштарысную намэнклятуру на 1928-29 г. некаторых зьмен вызначалася патрэбаю сыстэматызаваць асобныя дапаўненьні і зьмены, якія былі ўнесены ў намэнклятуру ў працягу 1927-28 г. у працэсе выкананьня бюджэтаў, а таксама і патрэбаю далейшага ўдасканаленьня намэнклятуры ў кірунку адпаведнага разьмяшчэньня парагафаў і вызначэньня іх зьместу.

З гэтай прычыны былі зьменены толькі асобныя часткі каштарыснай намэнклятуры.

Маючы гэта на ўвазе, трэба, карыстаючыся каштарыснаю намэнклятураю на 1928-29 г., ужываць зацьверджаную намэнклятуру па мясцовым бюджэце на 1927-28 г. („Вестник Финансов“ за 1927 г. № 37) з тымі зьменамі яе, якія паказаны ніжэй.

Зьмены гэтыя ў асноўным былі ўхвалены нарадаю фінансавых працаўнікоў, якая была ў маі гэтага году.

## А. Выдатковая частка.

### Разьдзел II. Адміністрацыйныя аддзелы і ахова грамадзкага парадку

У гэты разьдзел уведзен новы § 3—ведамственная міліцыя і адпаведна зьменена нумарацыя іншых параграфаў разьдзелу. У гэты параграф павінны запісвацца выдаткі на ўтрыманьне прамысловай, прыіскавай, курортнай і ўсіх іншых відаў ведамственнай міліцыі.

Гэтаму параграфу адпавядае § 1—мэтавыя дапамогі на ўтрыманьне ведамственай міліцыі—у разьдзеле XV (Дапамога з іншых крыніц) даходнай часьці намэнклятуры.

### Разьдзел IV. Народная асьвета.

Уведзены два новых параграфы, якія ўжываюцца ў межах РСФСР паводле дзейнага ў гэтай Рэспубліцы заканадаўства: § 2—сярэднія прафэсіянальныя школы—і § 5—рабочыя факультэты. З былога § 12—школы падлёткаў і школы для дарослых—вылучаны выдаткі на школы падлёткаў і паказаны ў новай нумарацыі § 7-м у групе выдаткаў на сацыяльнае выхаваньне; выдаткі на школы для дарослых трэба запісваць у § 17 (новай нумарацыі)—палітыка-асьветныя ўстановы і мерапрыемствы. Адпаведна мяняецца нумарацыя іншых параграфаў разьдзелу.

### Разьдзел V. Ахова здароўя.

У § 8 перанесены з § 10 выдаткі на санітарныя мерапрыемствы і § 8 дадзена агульная назва: санітарна-эпідэмічныя ўстановы і мерапрыемствы; у гэты параграф трэба запісваць таксама і выдаткі на мерапрыемствы змаганьня з эпідэміямі.

У § 10 запісваюцца толькі выдаткі на санітарна-асьветныя мерапрыемствы.

Уведзен новы § 11—перападрыхтоўка працаўнікоў аховы здароўя; у гэты параграф запісваюцца выдаткі на курсы перападрыхтоўкі працаўнікоў аховы здароўя.

### Разьдзел VI. Сацыяльнае забясьпечаньне.

З § 3 вылучаны выдаткі на мерапрыемствы для інвалідаў і з такой назваю ўведзен § 4, пры чым у гэты параграф (4) трэба запісваць таксама і грашовыя дапамогі інвалідным аб'яднаньням мясцовага значэньня (былы § 4).

### Разьдзел VII. Ахова працы.

Былы § 1 падзелены на два самастойных параграфы: § 1—удзел у арганізацыі грамадзянскіх работ, прадпрыемстваў і працоўных каляктываў беспрацоўных—і § 2—агульныя памяшканьні і сталоўкі для беспрацоўных.

### Разьдзел VIII. Сельская гаспадарка.

З § 3 выключаны выдаткі на дасьледча-паказальныя ўстановы і гэтаму параграфу дадзена назва: дасьледчыя ўстановы па сельскай гаспадарцы. Выдаткі на дасьледча-паказальныя ўстановы трэба запісваць у іншыя адпаведныя параграфы гэтага разьдзелу.

Параграфы 4, 5 і 6 перагрупаваны ў парадку іх нумарацыі для аб'яднаньня іх па асобных галінах сельскай гаспадаркі.

Былыя §§ 10 і 12 аб'яднаны ў адзін параграф і гэтаму параграфу (11) дадзена назва: зямельная маемасьць мясцовага значэньня; у гэты параграф трэба запісваць выдаткі на гаспадарчае ўпарадкаваньне зямельнай маемасьці мясцовага значэньня, а таксама і выдаткі на эксплёатацыю дзяржаўнай зямельнай маемасьці мясцовага значэньня.

**Разьдзел XI. Камунальныя прадпрыемствы.**

З § 5 вылучаны аўтабусы і ў зьвязку з гэтым уведзен новы § 6 з назваю: аўтабусы і таксаматоры.

Былыя параграфы 6 і 7 аб'яднаны ў адзін параграф 7 з назваю: электрычныя станцыі; у гэты параграф трэба запісваць у адпаведным артыкуле таксама і будаўніцтва камунальных электрычных станцый.

У разьдзел уведзен новы § 12 – фінансаваньне камунальных прадпрыемстваў, пераведзеных на гаспадарчы разрахунак. У гэты параграф запісваюцца сумы, што вылучаюцца ў мясцовым бюджэце на фінансаваньне камунальных прадпрыемстваў, пераведзеных на гаспадарчы разрахунак.

Разьдзелу XIII дадзена назва: Удзел у гаспадарчых выдатках часьцей і ўстаноў ваеннага ведамства і Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы; усе паказаныя выдаткі трэба запісваць аднэю агульнаю сумаю ў § 1 гэтага разьдзелу (не падзяляючы на артыкулы).

**Разьдзел XIV. Адлічэньні ў спэцыяльныя фонды і капіталы.**

У разьдзел уведзены два новых параграфы: § 4—у амартызацыйны фонд камунальных прадпрыемстваў—і § 11—на ўтварэньне рэзэрву ў мясцовым бюджэце. У параграфе 4 запісваюцца адлічэньні ў амартызацыйны фонд камунальных прадпрыемстваў, якія фінансуюцца ў каштарысным парадку. У параграфе 11 запісваюцца сумы, якія адлічваюцца на ўтварэньне рэзэрву ў мясцовым бюджэце, дзе такі ўстаноўлен, паводле законадаўства саюзнай рэспублікі.

Былому § 4 (цяпер § 5) дадзена новая назва: У фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня мясцовай прамысловасьці (у фонд А. Д. К.). У гэты параграф запісваюцца адлічэньні ў фонд ад прыбыткаў прамысловых прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку, а таксама і адлічэньні ў гэты фонд ад арэнднай платы зданых у арэнднае карыстаньне прамысловых прадпрыемстваў. У адпаведнасьці з гэтым ў § 1 разьдзелу III даходнай часткі намэнклятуры ў арт. 1 (Адлічэньні ад прыбыткаў) у складзе адлічэньняў ад прыбыткаў гаспадарчых прадпрыемстваў запісваецца і тая частка прыбыткаў, якая прызначана для залічэньня ў фонд крэдытаваньня мясцовай прамысловасьці, а ў арт. 3 (Арэндная плата) уся сума арэндных плацяжоў, уключаючы і адлічэньні ў паказаны вышэй фонд.

У адпаведнасьці з паказанымі вышэй зьменамі перанумараваны параграфы гэтага разьдзелу.

**Разьдзел XV. Асобныя выдаткі.**

Былыя §§ 2 і 3 аб'яднаны ў адзін параграф (§ 2) з назваю: „Выплата даўгоў і пазычак і выплата працантаў за іх“.

Скасавана разьдзяленьне на літары былога § 4 (цяпер § 3)—набываньне паёў і акцый.

Уключаны наступныя новыя параграфы, уведзеныя ў гэты разьдзел на працягу мінулага 1927-28 бюджэтнага году.

§ 8—выдаткі раённага выканаўчага камітэту на збіраньне акладных страхавых плацяжоў. У гэты параграф запісваюцца выдаткі раённага выканаўчага камітэту на падлік аб'ектаў, належачых да абавязковага акладнога страхаваньня, і на зьбіраньне і падлік акладных страхавых плацяжоў, а таксама і выдаткі, якія маюць сувязь з складаньнем сьпісаў, захаваньнем і перавозкаю маемасьці, апісанай за няплату нядоімак па сельскаму абавязковаму акладному страхаваньню. Выдаткі гэтыя робяцца за рахунак сум платы, устаноўленых раённымі выканаўчымі камітэтамі за памянёныя вышэй работы, і сумы гэтай

платы запісваюцца ў разьдзеле XV—дапамога з іншых крыніц—даходнай часьці каштарыснай намэнклятуры (§ 2).

§ 9—выдача доўгатэрміновых пазычак. У гэты параграф запісваюцца доўгатэрміновыя пазычкі, што выдаюцца на падставе дзейных законаў Саюзу ССР, альбо саюзных рэспублік беспасрэдна з сродкаў мясцовых бюджэтаў: у паасобку ў гэтым параграфе падлічаюцца пазычкі ў асноўныя спэцыяльныя капіталы крэдытна-каперацыйных таварystваў, вылучэньне якіх у мясцовых бюджэтах прадугледжана пунктамі 5 і 8 пастановы ЦВК і СНК СССР за 31 жніўня 1927 г. „Пра мерапрыемствы дапамогі разьвіцьцю ўкладных апярацый у крэдытна-каперацыйных таварыствах“ (З. З. СССР 1927 г. № 52, арт. 56) Зварот гэтых пазычак трэба запісваць у § 2 разьдзелу VII—„Розныя паступленьні“—даходнай часьці намэнклятуры.

§ 10—выдача кароткатэрміновых пазычак. Параграф гэты ўстаноўлен для адбіцьця ў мясцовых бюджэтах кароткатэрміновых, у тым ліку і міжбюджэтных, пазычаньняў альбо пазычак, якія выдаюцца ў працэсе выкананьня мясцовых бюджэтаў. Для гэтай-жа мэты ўстаноўлены ў разьдзеле XVI—пазычкі—даходнай часткі намэнклятуры асобны § 2—кароткатэрміновыя пазычкі—у якім адбіваюцца ў працэсе выкананьня мясцовых бюджэтаў атрыманьні гэтых пазычак альбо пазычаньняў.

Самую выплату кароткатэрміновых, у тым ліку і міжбюджэтных, пазычаньняў і пазычак трэба запісваць у наступным парадку: калі кароткатэрміновая пазычка альбо міжбюджэтнае пазычаньне выплачваюцца ў год іх выдачы, то мясцовы бюджэт, які выплачвае, запісвае іх праз зьмяншэньне на выплачаную суму параграфу 2 разьдзелу XVI даходнай часткі намэнклятуры; бюджэт-жа, які атрымоўвае назад выдадзеную суму, запісвае яе ў гэты (10) параграф праз зьмяншэньне на выплачаную суму выдатку на аднаўленьне крэдыту. У тых-жа выключных выпадках, калі выплата кароткатэрміновай пазычкі альбо пазычаньня пераходзіць па якой-небудзь прычыне за межы аднаго году, то, пры складаньні бюджэту на новы бюджэтны год, пазычка або пазычаньні, якія павінны быць выплачаны, паказваюцца ў новым бюджэце ў выдатковай яго частцы ў § 2 гэтага разьдзелу—„Выплата даўгоў пазычак і працантаў“, а ў бюджэце, які атрымоўвае назад выдадзеную пазычку альбо пазычаньне, у даходнай яго частцы ў § 3 „Іншыя паступленьні“—разьдзелу VII—Розныя паступленьні.

§ 11. Выдаткі на задаволеньне патрэб мясцовай гаспадаркі, аднесеныя на мясцовыя сродкі паводле арт. 115 Палажэньня пра мясцовыя фінансы РСФСР. У гэты артыкул запісваюцца ў межах РСФСР, паводле дзеючага ў гэтай рэспубліцы заканадаўства, выдаткі (апроч прадугледжаных Палажэньнем пра мясцовыя фінансы абавязковых выдаткаў), зьвязаныя з задаволеньнем патрэб мясцовай гаспадаркі, пры ўмове, што ў распараджэньні належнага мясцовага савету ёсьць на гэта вольныя сродкі на задаваленьне абавязковых выдаткаў.

**Разьдзел XVIII. Адлічэньні ў фонд рэгуляваньня саюзн. рэспублікі.**

У гэты разьдзел запісваюцца сумы, якія адлічваюцца з паасобных мясцовых бюджэтаў на складаньне фонду рэгуляваньня па данай саюзнай рэспубліцы. Сумы адлічэньняў запісваюцца ў адпаведны параграф гэтага разьдзелу ў залежнасьці ад крыніц, ад якіх робяцца адлічэньні. Далейшы, калі трэба, падзел разьдзелу на параграфы робіцца пасьля папярэдняга ўзгадненьня з Народным Камісарыятам Фінансаў СССР.

### Разьдзел XIX. Выдаткі на ірыгацыю.

Гэты разьдзел уведзен у 1927-28 бюдж. годзе для рэспублік, на якія пашыраецца пастанова ЦВК і СНК СССР за 13 ліпеня 1927 г. пра водны збор (З. З. СССР 1927 г., № 41, арт. 418). Выдаткі, якія запісваюцца ў гэтым разьдзеле, папаўняюцца належным асыгнаваньнем з фонду СНК саюзнай рэспублікі, складзенага з паступленьняў воднага збору па гэтай рэспубліцы на папаўненьне выдаткаў на ірыгацыю. (Разьдзел XV—Дапамогі з іншых крыніц—§ 3 даходнай часткі каштарыснай намэнклятуры).

## Б. Даходная часьць.

### Разьдзелы II і III.

Бюджэтныя нядоімкі па падатках і зборах і непадатковыя даходы, якія не паступілі ў мінулым годзе, выключаюцца, а запісаныя ў іх нядоімкі і непадатковыя недапаступленьні трэба запісваць у адпаведныя параграфы іншых разьдзелаў даходнай часткі намэнклятуры ў складзе належных даходных крыніц данага году.

### Разьдзел IV—(былы VI). Даходы ад камунальнай маемасьці і аброчных артыкулаў.

§ 6—Дадатковая рэнта—перанесен з гэтага разьдзелу ў разьдзел VIII—Мясцовыя падаткі і зборы (§ 23).

### Разьдзел V (былы VII). Даходы ад камунальных прадпрыемстваў.

У гэтым разьдзеле ў адпаведнасьці з разьдзелам XI выдатковай часткі вылучан асобна § 6—аўтабусы і таксаматоры—і адпаведна перанумараваны іншыя параграфы.

### Разьдзел VI (былы VIII) Даходы ад рознай маемасьці, установ, прадпрыемстваў і мерапрыемстваў, апроч сельска-гаспадарчых, камунальных і мясцовай прамысловасьці.

У гэты разьдзел перанесены з разьдзелу VII (былы разьдзел IX) § § 2 і 3 і зьмешчаны пасьля існуючых параграфаў гэтага разьдзелу: § 7—працанты з грашовых капіталаў і працантавых папер, дывідэнд на паі і акцыі—і § 8—ад рэалізацыі дзяржаўных фондаў мясцовага значэньня. Адпаведныя параграфы гэтага разьдзелу дзеляцца на артыкулы: арт. 1—Адлічэньні ад прыбыткаў; арт. 2—Агульны даход і арт. 3—Арэндная плата.

### Разьдзел VII (былы IX). Розныя паступленьні.

§ § 2 і 3, як паказана вышэй, перанесены ў разьдзел VI даходнай часткі. Былы § 4—зборы за дзеяньні, якія робяцца інжынэрамі, што знаходзяцца на мясцовым бюджэце—і § 5—судовыя выдаткі, якія паступаюць па ўстановах, што знаходзяцца на мясцовым бюджэце—выключаны з разьдзелу і сумы даходаў, якія паступаюць па гэтых параграфах, павінны быць залічаны ў § 3—іншыя паступленьні.

Уведзен новы § 2—зварот пазычак—у які, як паказана было ў выдатковай частцы намэнклятуры, запісваюцца сумы зьвернутых пазычак, якія былі выдадзены беспасрэдна з мясцовых сродкаў. Працанты за гэтыя пазыкі трэба залічаць у § 7 разьдзелу VI даходнай часткі намэнклятуры.

Былы § 6—мэтавыя дапамогі на ўтрыманьне ведамственай міліцыі—перанесен ў разьдзел XV—дапамогі з іншых крыніц (§ 1).

Былы § 7—іншыя паступленьні—перанумараваны ў § 3.

**Разьдзел VIII (б. X)—Мясцовыя падаткі і зборы.**

§ 3 названы: падатак з біржавых угод. Перанесены з разьдзелу VI § 23—рэнта з гарадзкіх зямель.

**Разьдзел X (б. XII). Адлічэньні ад дзяржаўных падаткаў.**

Уведзен, паводле існуючага заканадаўства, новы § 4—адлічэньні ад дзяржаўнага рэгістрацыйнага збору з небіржавых угод.

**Разьдзел XI (б. XIII).—Адлічэньні ад дзяржаўных даходаў.**

У гэты разьдзел уведзен новы § 10—зборы за натарыяльныя дзеяньні, якія выконваюцца ўстановамі, што знаходзяцца на мясцовым бюджэце. У гэты параграф запісваюцца, як адлічэньні ад дзяржаўных даходаў, усе 100% збору за натарыяльныя дзеяньні ў тых выпадках, калі гэтыя дзеяньні выконваюцца ўстановамі, што знаходзяцца на мясцовым бюджэце.

**Разьдзел XII (б. XIV). Зварот выдаткаў з агульнадзяржаўных сродкаў.**

У гэтым разьдзеле (§ 1) паказваюцца агульнаю сумаю ўсе сумы звароту выдаткаў з агульнадзяржаўных сродкаў.

**Разьдзел XIII (б. XV). Дапамогі з агульнадзяржаўных сродкаў.**

§ 1 гэтага разьдзелу—субвенцыя—павінен быць залічаны ў наступныя артыкулы: арт. 1—На настаўніцкі пэрсанал; арт. 2—На лекарскі і сярэдні мэдычны пэрсанал; арт. 3—На агранамічны і вэтэрынарны пэрсанал; арт. 4—На дарожнае будаўніцтва; арт. 5—На школьнае будаўніцтва; арт. 6—На больнічнае будаўніцтва; арт. 7—На агранамічнае будаўніцтва; арт. 8—На вэтэрынарнае будаўніцтва.

Далейшае ўстанаўленьне артыкулаў робіцца народнымі камісарыятамі фінансаў саюзных рэспублік пасьля ўзгадненьня з Народным Камісарыятам Фінансаў СССР.

**Разьдзел XIV (б. XVI). Мэтавыя дапамогі з спэцыяльных фондаў і капіталаў.**

Гэты разьдзел падзяляецца на параграфы ў адпаведнасьці з параграфамі разьдзелу XIV (Адлічэньні ў спэцыяльныя фонды і капіталы) выдатковай часткі намэнклятуры.

**Разьдзел XV.—Дапамогі з іншых крыніц.**

Гэты разьдзел уводзіцца для паказаньня ў ім—у § 1—мэтавых дапамог на ўтрыманьне ведамственай міліцыі (перанесен з разьдзелу IX—розныя паступленьні; у § 2—платы раённых выканаўчых камітэтаў за зьбіраньне абкладных плацяжоў—для папаўненьня выдаткаў, адзначаных у § 8, разьдз. XV (Асобныя выдаткі) выдатковай часткі намэнклятуры; у § 3—асыгнаваньне з фонду СНК на папаўненьне выдаткаў на ірыгацыю (гл. разьдзел XIX—Выдаткі на ірыгацыю—выдатковай часткі намэнклятуры).

**Разьдзел XVI (б. XVII).—Пазычкі.**

§ 1—доўгатэрміновыя пазычкі—падзяляецца на артыкулы ў адпаведнасьці з прызначэньнем пазычак.

§ 2—кароткатэрміновыя пазычкі—устаноўлен для адбіцьця ў намэнклятуры апэрацый з кароткатэрміновымі пазычкамі і міжбюджэтнымі пазычаньнямі. Парадак выплаты іх паказан у аб'ясьненьнях да § 10 разьдзелу XV (Асобныя выдаткі) выдатковай часткі намэнклятуры.

**Разьдзел XVII (былы XVIII). Дапамогі з мясцовых фондаў рэгуляваньня.**

З гэтага разьдзелу вылучан § 1 (з фонду рэгуляваньня саюзнай рэспублікі) і для правядзеньня дапамог з гэтага фонду ўстаноўлен самастойны разьдзел XVIII—Дапамогі з фонду рэгуляваньня саюзнай рэспублікі.

**Разьдзел XVIII.—Дапамогі з фонду рэгуляваньня саюзнай рэспублікі.**

Гэты разьдзел падзяляецца на параграфы ў адпаведнасьці з прызначэньнем дапамог, пры чым, калі мэтавыя дапамогі маюць прызначэньне, яны павінны запісвацца ў адпаведныя артыкулы § 2 (Мэтавыя дапамогі) гэтага разьдзелу; падзел гэтага параграфу на артыкулы робіцца пасьля ўзгадненьня з Народным Камісарыятам Фінансаў СССР.

У адпаведнасьці з пастановаю нарады фінансавых працаўнікоў, якая адбылася ў маі 1928 г., Народны Камісарыят Фінансаў СССР прапануе абавязаць усе мясцовыя фінансавыя органы, пры падачы ў вышэйшыя органы мясцовых бюджэтаў ці іх падрахункаў, далучаць да іх наступныя абавязковыя дадаткі:

1) кароткія зьвесткі, якія характарызуюць стан (уключаючы і астачы) і рух на даны год сум па асобных фондах, капіталах і спэцыяльных сродках мясцовага значэньня, з патрэбнымі да іх тлумачэньнямі і

2) кароткія зборныя вытрымкі з прамыслова-фінансавых плянаў аб зваротах камунальных, прамысловых і іншых прадпрыемстваў, пераведзеных на гаспадарчы разрахунак, паказваючы даныя аб праекце разьмеркаваньня прыбыткаў.

Паказаныя ў п. п. 1 і 2 зьвесткі павінны падавацца ў зборным відзе таксама і пры падрахунках мясцовых бюджэтаў аж да іх рэспубліканскіх падрахункаў, якія падаюцца ў Народны Камісарыят Фінансаў СССР.

Паказаныя зьвесткі вельмі патрэбны для правільнага аналізу і складаньня мясцовых бюджэтаў, бо даюць магчымасьць улічваць мясцовыя сродкі, якія не праходзяць беспасрэдна па адпаведных мясцовых бюджэтах.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### Пра захаваньне сярэдняга заробку за ўдзельнікамі Ўсебеларускай Спартакіяды 1928 г.

Народны Камісарыят Працы БССР для разьвіцьця арт. 14 „Палажэньня аб Саветах Фізычнай Культуры БССР“ (З. З. БССР 1925 г., № 40, арт. 346) і на падставе пастановы СНК БССР за 2 ліпеня 1928 г. (прат. распарадчага пасяджэньня № 62) пастанаўляе:

За рабочымі і служачымі—удзельнікамі Ўсебеларускай Спартакіяды 1928 г. за час спартакіяды, але ня больш шасьці дзён, захоўваецца іх сярэдні заробак па месцы працы.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

Узгоднена з ВСНГ БССР—адносьнік ВСНГ БССР за 12 ліпеня 1928 г. № 8729.

14 ліпеня 1928 г.
№ 47.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**Пра зацьверджаньне тыповага працоўнага дагавору з вучнямі, якія працуюць у саматужнікаў, рамесьнікаў, прамысловай капярацыі і працоўных арцелях.**

У адпаведнасьці з арт. арт. 3 і 4 пастановы ЦВК і СНК БССР за 21 мая 1927 г. „Пра зацьверджаньне правіл аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, прамысловай капярацыі і працоўных арцелях“ (З. З. БССР 1927 г., № 27, арт. 126) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Зацьвердзіць дададзены да гэтай пастановы тыповы дагавор; апошні па згодзе старон, што заключаюць гэты дагавор, можа быць зьменены і дапоўнены артыкуламі, непрадугледжанымі ў тыповым дагаворы, з тым, каб зьмены і дапаўненьні не пагаршалі ўмоў працы вучняў у параўнаньні з паказанаю вышэй пастановаю ЦВК і СНК БССР за 21 мая 1927 году.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

16 ліпеня 1928 г.
№ 48

---

*Дадатак.*

**Тыповы працоўны дагавор, які заключаецца вучнямі з саматужнікамі, рамесьнікамі, з прамысловаю капярацыяю і працоўнымі арцелямі.**

I. Гэты дагавор заключан на ўвесь час навучаньня паміж саматужнікам, рамесьнікам, арцельлю, членам арцелі (паказаць прозьвішча, імя, імя па бацьку саматужніка, рамесьніка, члена арцелі, назву арцелі) ..................

..................

якія знаходзяцца (паказаць падрабязны адрэс) з аднаго боку і вучням (прозьвішча, імя, імя па бацьку і адрэс) ..................

..................

неабавязкова (з удзелам бацькоў, апякуноў прафэсыянальнага саюзу) з другога боку.

II. Я, вучань .................. (прозьвішча), наймаюся на тэрмін з .................. 192 г. .................. на для навучаньня мяне рамяству, прафэсіі (паказаць якой). Пры гэтым я павінен выконваць усе работы, зьвязаныя з навучаньнем (пералічыць асноўныя работы).

III. Я, саматужнік, рамесьнік, член арцелі, арцель (прозьвішча, назва арцелі) павінен на працягу .................. год вывучыць вучня прафэсіі, рамяству (падрабязна пералічыць работу).

IV. Рабочы час вучня па .................. гадзін у дзень з ............ да ............ і з ............ да ............ з перапынкам ад ............ гадзін да ............ гадзін дня.

V. Плата за работу вучня ўстанаўляецца грашовая і натуральная (паказаць, якая грашовая, якія харчы) на працягу першага паўгодзьдзя навучаньня, з 2-га паўгодзьдзя 1-га году, з пачатку другога году навучаньня. Заработная плата пасьля першага паўгодзьдзя 2 году навучаньня ўстанаўляецца экскпэртнаю Камісіяю паводле пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 22 красавіка 1925 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г. № 2), у залежнасьці ад кваліфікацыі вучня.

VI. Заработная плата выплачваеццца ў наступныя тэрміны ............

VII. Вучню даецца наступны штотыднёвы дзень адпачынку ............

VIII. Вучню штогод даецца водпуск (паказаць калі і даўжыню водпуску).

IX. Вучню даюцца бясплатна патрэбнае начыньне і матар'ялы для работы і вывучэньня паказанага ў арт. 2 рамяства.

X. Іншыя ўмовы (спэцвопратка, павялічаны рабочы дзень у сельскіх мясцовасьцях і інш.), непрадугледжаныя гэтым дагаворам, вызначаюцца паводле пастановы ЦВК і СНК БССР „Пра зацьверджаньне правіл аб вучнёўстве ў саматужнікаў, рамесьнікаў, прамысловай капярацыі і працоўных арцелях“ (З.З. БССР 1927 г., № 27, арт. 126).

Дагавор заключаны ............ 192 ...... г.

Месца заключэньня дагавору ............

Подпісы старон ............

Саматужнік, рамесьнік, член арцелі—

В у ч а н ь—

Гэты дагавор складаецца ў 3-х экзэмплярах, з якіх адзін захоўваецца ў наймальніка, другі—у вучня і 3-ці накіроўваецца наймальнікам у гарадох—акруговай інспэкцыі працы, у мястэчках і сельскіх мясцовасьцях—местачковаму альбо сельскаму савету.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**Пра ўстанаўленьне параённых продажных цэн на цьвікі ф-ка вагон ці ф-ка баржа прыстань прызначэньня і максімальна-гранічных продажных цэн пры продажы гуртам, паўгуртам і ў раздроб дзяржаўнымі, капярацыйнымі арганізацыямі і прыватнымі гандлярамі.**

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР, пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 10 мая 1928 г. № 94 і для скасаваньня пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 1 чэрвеня 1927 г. № 39 у частцы ўстанаўленьня гранічных набавак на цьвікі розныя, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць для аддзяленьняў сындыкатаў, дзяржаўных, капярацыйных, прамысловых прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, максымальна гранічныя параённыя асноўныя продажныя

цэны на дротавыя цьвікі № 42/100 м. м. па мэтрычнаму асартымэнту ці 8/4, па ангельскаму калібру ф-ка вагон ст. прызначэньня чыгункі агульнага карыстаньня за адну скрынку вагаю 20 кгр. нэтто пры продажы за гатоўку:

На станцыі Ворша . . . . . . . . . 4 руб. 50 кап. скрынка.
" " Рэчыца . . . . . . . . . 4 " 50 " "
" " Гомель . . . . . . . . . 4 " 60 " "
" іншых ст. БССР . . . . . . . . . 4 " 65 " "

*Увага.* На атрымальніка грузу ўскладаецца аплата выдаткаў за прастой вагонаў, за захаваньне на станцыі прызначэньня, якое адбылося па віне атрымальніка грузу, за важаньне на станцыі прызначэньня, зробленае па жаданьні атрымальніка грузу, а таксама за выгрузку з вагону ці баржы. Усе іншыя чыгуначныя выдаткі ўключаюцца ў цану ф-ка вагон ст. прызначэньня.

2. Цэны, устаноўленыя арт. 1 гэтай пастановы, пашыраюцца, на паўнагрузныя вагоны; павагоная норма пагрузкі—16,5 тон ці 725 скрынак цьвікоў.

Калі цьвікі, па патрабаваньні купцоў, будуць адгружацца непаўнагрузнымі вагонамі, то розьніца ў кошце правозу аплачваецца атрымальнікамі грузу, апроч паказаных у арт. 1 гэтай пастановы цэн, г. зн. з сум рахунку па цэнах ф-ка вагон прызначэньня павінен выключацца кошт правозу за сапраўдную вагу грузу, вылічаны паводле павагоннага тарыфу. Купец-жа аплачвае фрахт па сапраўднаму кошту.

Калі-ж цьвікі будуць адгружацца непаўнагрузнымі вагонамі па віне вытворчых прадпрыемстваў, то з сум рахунку купца павінен выключацца сапраўдны кошт чыгуначнага правозу.

*Увага 1.* У пэрыяд навігацыі мэталёвая прамысловасьць мае права правозіць дротавыя цьвікі вадою ці мяшанымі чыгуначнымі і воднымі зносінамі, ужываючы тыя самыя параённыя цэны ф-ка пункты прызначэньня, паказаныя ў арт. 1 гэтай пастановы. Калі цьвікі адпраўляюцца па водных і мяшаных шляхох, то фрахт аплачваецца купцом па сапраўднаму кошту, прычым заплочаная сума выключаецца з рахунку купца.

*Увага 2.* Органам прамысловасьці даецца права пры паўнагрузных і парцыённых адпраўках, калі няма патрэбнага асартымэнту цьвікоў, замяняць нехапаючыя разьмеры цьвікоў бліжэйшымі суседнімі разьмерамі і №№ у межах ня больш $3^{0}/_{0}$ колькасьці цьвікоў данай адпраўкі.

3. Фактычны кошт чыгуначнага ці воднага фрахту аплачваецца атрымальнікам грузу, і заплочаная сума сьпісваецца прадаўцом з рахунку купца. Розьніца, якая можа быць паміж сумаю, заплочанаю купцом па транспартных дакумэнтах, пры атрыманьні цьвікоў па чыгуначных паўнагрузных вагонах і па водных шляхох, незалежна ад колькасьці грузу, і сумаю, сьпісанаю прадаўцом з рахунку купца, адпаведна зварочваецца той ці іншай старане з наступнаю аплатаю. Для атрыманьня паказанай розьніцы атрымальнік цьвікоў паказвае прадаўцу аплачаны транспартны дакумэнт з перадатачным надпісам атрымальніка.

*Увага 1.* Розьніца ў суме менш 2 руб. па асобнай накладной, апроч выпадкаў сыстэматычных пера募бораў і недабораў, пры разрахунках з органамі Народнага Камісарыяту Шляхоў не дае старанам права заяўляць узаемныя прэтэнзыі адзін другому.

*Увага 2.* За недастачу грузу і псаваньне яго ў дарозе атрымальнік грузу павінен патрабаваць папаўненьня страт беспасрэдна з органаў Народнага Камісарыяту Шляхоў.

4. Кошт дадзенага прадаўцом крэдыту пры транзітных апярацыях аплачваецца купцом, прычым падлічальны процант не павінен перавышаць разьмеру падлічальнага проценту таго банку, дзе крэдытуецца прадавец.

5. Калі, па патрабаваньні гандлёвых арганізацый, цьвікі будуць адгружацца транзітам у колькасьці менш 150 скрынак у адзін адрэс то прадаўцу даецца права спаганяць з купца, апроч паказанай у арт. 1 і ва ўвазе да арт. 2 гэтай пастановы цаны, дадаткова па 6 к. за адну скрынку.

6. Прыплаты і скідкі за асобыя разьмеры дротавых цьвікоў павінны рабіцца да ўстаноўленых у арт. 1 гэтай пастановы цэн, паводле прэйскуранту прыплат на чорныя мэталі, выданага ў 1926 годзе УМС'ам і зацьверджанага пастановаю Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 4 лютага 1927 г. „Пра зацьверджаньне прэйскуранту на чорныя мэталі, выдадзенага ў 1926 г. УМС" (дадатак да часопісі „Советская Торговля" № 20-21 за 10/IV—1928 г., ст. 3), паводле якой усе паказаныя прыплаты і скідкі робяцца для цьвікоў да № 10 (34) паводле каэфіцыэнту 1,5, а больш № 10 (34) да № 19 (11)—паводле каэфіцыенту 2.

Для цьвікоў-жа больш № 19 (11) у дадатак да п. 7 пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 4 лютага 1927 г. пацьвердзіць каэфіцыент падаражаньня ў разьмеры 3,5, які ўжываецца зараз органамі прамысловасьці.

7. Белкапсаюзу і Белсельсаюзу, якія ўдзельнічаюць дольшчыкамі Цэнтрасаюзу і Сельсаюзу ў гэнэральных дагаворах ці маюць самастойныя дагаворы на транзітны завоз, пры продажы цьвікоў транзітам даецца права рабіць максымальную гранічную набаўку на цэны, паказаныя ў арт. 1 гэтай пастановы з прыбаўленьнем прыплат, паводле арт. 6 гэтай пастановы, у разьмеры ня больш 2%.

8. Усім іншым гандлёвым арганізацыям, не пералічаным у арт. 7 гэтай пастановы (апроч Белпайгандлю), пры транзітных продажах даецца права набаўляць на цэны, паказаныя ў арт. арт. 1 і 6 гэтай пастановы, ня больш 3%.

*Увага да арт. арт. 7 і 8.* Калі цьвікі адпраўляюцца праз сыстэму капярацыі і дзяржаўнага гандлю транзітам ад цэнтральнага зьвяна да нізавога раздробнага пры дапамозе сярэдняга зьвяна, то цэнтральнаму і сярэдняму зьвеньням разам даецца права рабіць набаўку на цэны, паказаныя ў арт. арт. 1 і 6 гэтай пастановы наогул ня больш 3,5%.

Калі-ж цьвікі адпраўляюцца толькі да сярэдняга зьвяна, то транзітная набаўка робіцца адзін раз, незалежна ад ліку перапрадаж данай партыі тавару.

9. Устанавіць наступныя нормы разьмераў выдач, якія вызначаюць гуртовую, паўгуртовую і раздробную куплю-продаж цьвікоў:

Для гуртовага продажу больш 150 скрынак,
„ паўгуртовага „ ад 150 да 10 скрынак
„ раздробнага „ менш 10 скрынак.

*Увага.* Цьвікі дзяржаўн ым і каперацыйным арганізацыям, што гандлююць у сельскіх мясцовасьцях у раздроб, калі яны купляюць менш нормы, установленай для паўгурту, прадаюцца па паўгуртовых цэнах.

10. Устанавіць наступныя гранічныя продажныя гуртовыя, паўгуртовыя і раздробныя цэны на цьвікі за гатоўку для дзяржаўных прадпрыемстваў, каперацыйных арганізацый і прыватных гандляроў:

| НАЗВА РАЗЬМЕРАЎ ЦЬВІКОЎ | Продажныя цэны прамысловасьці ф-ко ст. прызначэньня паўнагрузнымі вагонамі | | Гуртовая продажная цана | | Паўгуртовая продажная цана | | Раздробная продажная цана | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Франко станцыя Рэчыца и Ворша | Франко станцыя ўсіх інш. пункт. БССР | Для Рэчыцы і Воршы | Для інш. пунктаў БССР | Для Рэчыцы і Воршы | Для інш. пунктаў БССР | Для Рэчыцы і Воршы | Для інш. акруговых пунктаў, Барысава і Слуцку | Для інш. гарадоў і сельскіх мясцовасьцяй, якія абслугоўваюцца Воршаю і Рэчыцаю | Для інш. гарадоў і сельск. мясцовасьцяй, якія неабслугоўваюцца Воршаю і Рэчыцаю |
| № 210—№ 4×250—125 м/м | 441 | 456 | 464 | 479 | 481 | 496 | 517 | 534 | 529 | 547 |
| № 5 да № 8×250—90 „ | 450 | 465 | 473 | 488 | 491 | 507 | 527 | 544 | 540 | 558 |
| № 9 або № 38×100 „ | 459 | 474 | 482 | 498 | 501 | 517 | 537 | 554 | 551 | 569 |
| № 9 або № 38×90 „ | 468 | 483 | 492 | 507 | 511 | 527 | 548 | 565 | 561 | 579 |
| № 10 „ № 34×90 „ | 477 | 492 | 501 | 517 | 520 | 536 | 557 | 574 | 572 | 590 |
| № 11 „ № 31×90 „ | 534 | 549 | 560 | 576 | 582 | 598 | 624 | 641 | 641 | 659 |
| № 12 „ № 28×90 „ | 558 | 573 | 585 | 601 | 608 | 624 | 652 | 669 | 669 | 687 |
| № 9 „ № 38×80—75 „ | 477 | 492 | 501 | 517 | 520 | 536 | 557 | 574 | 572 | 590 |
| № 10 „ № 34×80—75 „ | 486 | 501 | 510 | 526 | 530 | 546 | 569 | 586 | 583 | 601 |
| № 11 „ № 31×80—75 „ | 534 | 549 | 560 | 576 | 582 | 598 | 624 | 641 | 641 | 659 |
| № 12 „ № 28×80—75 „ | 558 | 573 | 585 | 601 | 608 | 624 | 652 | 669 | 669 | 687 |
| № 13 „ № 24×80—75 „ | 618 | 633 | 648 | 663 | 672 | 688 | 722 | 739 | 741 | 759 |
| № 14 „ № 21×70 „ | 630 | 645 | 660 | 675 | 685 | 701 | 735 | 753 | 756 | 774 |
| № 11 „ № 31×60 „ | 546 | 561 | 573 | 588 | 595 | 610 | 638 | 655 | 655 | 673 |
| № 12 „ № 28×60 „ | 558 | 573 | 585 | 601 | 608 | 624 | 652 | 669 | 669 | 687 |
| № 13 „ № 24×60 „ | 618 | 633 | 648 | 663 | 672 | 688 | 722 | 739 | 741 | 759 |
| № 14 „ № 21×60 „ | 630 | 645 | 660 | 675 | 685 | 701 | 735 | 753 | 756 | 774 |
| № 15 „ № 18×60 „ | 714 | 729 | 748 | 763 | 776 | 792 | 833 | 850 | 857 | 875 |
| № 16 „ № 16×60 „ | 750 | 765 | 785 | 801 | 815 | 831 | 875 | 892 | 900 | 918 |
| № 17 „ № 14×60 „ | 786 | 801 | 822 | 838 | 854 | 870 | 917 | 944 | 943 | 961 |
| № 15 „ № 18×50 „ | 714 | 729 | 748 | 763 | 776 | 792 | 833 | 850 | 857 | 875 |
| № 16 „ № 16×50 „ | 750 | 765 | 785 | 801 | 815 | 831 | 875 | 892 | 900 | 918 |
| № 17 „ № 14×50 „ | 786 | 801 | 822 | 838 | 854 | 870 | 917 | 944 | 943 | 961 |
| № 15 „ № 18×45 „ | 738 | 753 | 772 | 788 | 802 | 818 | 861 | 878 | 885 | 903 |
| № 16 „ № 16×45 „ | 774 | 789 | 810 | 826 | 841 | 857 | 903 | 920 | 929 | 947 |
| № 17 „ № 14×45 „ | 810 | 825 | 847 | 863 | 880 | 896 | 945 | 962 | 972 | 990 |
| № 15 „ № 18×40 „ | 750 | 765 | 785 | 801 | 815 | 831 | 875 | 892 | 900 | 918 |
| № 16 „ № 16×40 „ | 786 | 801 | 822 | 838 | 854 | 870 | 917 | 944 | 943 | 961 |
| № 17 „ № 14×40 „ | 822 | 837 | 860 | 875 | 893 | 909 | 959 | 976 | 986 | 1004 |
| № 14 „ № 21×35 „ | 690 | 705 | 723 | 738 | 750 | 766 | 805 | 822 | 828 | 846 |
| № 15 „ № 18×30 „ | 774 | 789 | 810 | 826 | 841 | 857 | 903 | 920 | 929 | 947 |
| № 16 „ № 16×35 „ | 810 | 825 | 847 | 863 | 880 | 896 | 945 | 962 | 972 | 990 |
| № 17 „ № 14×35 „ | 846 | 861 | 885 | 900 | 919 | 935 | 986 | 1003 | 1015 | 1033 |
| № 14 „ № 21×30 „ | 702 | 717 | 735 | 750 | 763 | 779 | 819 | 836 | 842 | 860 |
| № 16 „ № 16×30 „ | 822 | 837 | 860 | 875 | 893 | 909 | 959 | 976 | 986 | 1004 |
| № 15 „ № 18×30 „ | 786 | 801 | 822 | 838 | 854 | 870 | 917 | 944 | 943 | 961 |
| № 17 „ № 14×30 „ | 858 | 873 | 897 | 913 | 932 | 948 | 1000 | 1017 | 1029 | 1047 |
| № 16 „ № 16×25 „ | 846 | 861 | 885 | 900 | 919 | 935 | 986 | 1003 | 1015 | 1033 |
| № 17 „ № 14×25 „ | 882 | 897 | 922 | 938 | 957 | 974 | 1028 | 1045 | 1058 | 1076 |
| № 17 „ № 14×18—20 „ | 906 | 921 | 947 | 963 | 983 | 1000 | 1056 | 1073 | 1087 | 1105 |
| № 18 „ № 12×18—20 „ | 1146 | 1161 | 1197 | 1212 | 1243 | 1259 | 1334 | 1351 | 1375 | 1393 |
| № 19 „ № 11×18—20 „ | 1314 | 1329 | 1372 | 1387 | 1424 | 1440 | 1529 | 1547 | 1577 | 1595 |
| № 17 „ № 14×12 „ | 1002 | 1017 | 1047 | 1063 | 1087 | 1103 | 1167 | 1185 | 1202 | 220 |
| № 18 „ № 12×12 „ | 1314 | 1329 | 1372 | 1387 | 1424 | 1440 | 1529 | 1547 | 1577 | 1595 |
| № 19 „ № 11×12 „ | 1434 | 1449 | 1496 | 1512 | 1554 | 1570 | 1668 | 1685 | 1720 | 1739 |

*Увага 1.* Усе гарады і мястэчкі, апроч акруговых гарадоў і Рэчыцы, Барысава і Слуцку, аднесены па набаўках да сельскіх мясцовасьцяй.

*Увага 2.* Да ўстаноўленых гранічных цэн для сельскіх мясцовасьцяй прыбаўляецца фактычны кошт правозу ад месца закупкі-складу паўгуртовай арганізацыі—да месца рэалізацыі.

*Увага 3.* Продажныя гранічныя цэны на разьмеры цьвікоў, не паказаныя ў гэтай пастанове, устанаўляюцца ў наступным парадку:

а) продажныя цэны прамысловасьці ф-ка ст. прызначэньня, грунтуючыся на асноўнай цане, паводле арт. 1 гэтай пастановы, і ўстаноўленай прыплаты, паводле арт. 6 гэтай пастановы;

б) фактычны кошт гужавой дастаўкі за адзін канец да складу гандлёвай арганізацыі;

в) гандлёвая набаўка гандлёвай арганізацыі ў разьмеры: для гурту—4%, паўгурту—8%, раздробнага гандлю ў акруговых гарадох і Рэчыцы, Барысаве і Слуцку—16% і раздробнага гандлю ў іншых пунктах—20% на цэны ф ка ст. прызначэньня;

г) пры продажы цьвікоў са складаў гандлёвых арганізацый гуртам і паўгуртам у крэдыт, кошт апошняга аплачваецца купцом, апроч устаноўленых цэн у разьмеры, які не перавышае фактычных выдаткаў прадаўца па данаму крэдыту.

11. Абавязаць усе дзяржаўныя, каперацыйныя арганізацыі і прыватныя асобы вывешваць на відных мясцох у гандлёвых памяшканьнях гранічныя продажныя цэны на цьвікі.

12. Гэтая пастанова набывае сілу для транзітных апяраций з 15-га мая 1928 г., а для складавых продаж—з 15 чэрвеня 1928 г.

13. У адпаведнасьці з пастановаю Савету Працы і Абароны за 23 сакавіка 1928 г. і пастановаю Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 10 мая 1928 г., абавязаць аддзяленьні сындыкатаў і дзяржаўныя прамысловыя арганізацыі БССР, якія запрадалі дротавыя цьвікі паводле дагавораў будаўнічым арганізацыям, зрабіць з апошнімі пераразьлік на цьвікі, праданыя ў пэрыяд часу з 15 лістапада 1928 г. да I/VI—1928 г. з скідкаю з існаваўшых да I/VI—1928 г. асноўных продажных цэн франко-вагон ст. адпраўленьня ў разьмеры 4%.

14. Запрапанаваць акруговым інспэктаром гандлю на працягу двух тыдняў з дня апублікаваньня гэтай пастановы ўстанавіць сярэдні кошт правозу аднае скрынкі цьвікоў для акруговых гарадоў і сельскіх мясцовасьцяй і даць такія гандлёвым арганізацыям для кіраваньня.

15. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

6 ліпеня 1928 г.
№ 49.

---

Зацьвярджаю: Народны Камісар Фінансаў БССР.

*В. Мікуліч.*

10 жніўня 1928 г.

## 8. Інструкцыя падатковага кіраўніцтва НК Фінансаў БССР пра справаздачнасьць па адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1928-29 г.

*(Дадатак да інструкцыі НК Фінансаў СССР).*

### І. Падлік паступленьняў падатку:

§ 1. Плацяжы па сельска-гаспадарчым падатку, што прымаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі і касамі дзяржаўнага банку як непасрэдна ад платнікаў, так і праз пошту, запісваюцца ў асобныя рэестры паступленьняў с.-г. падатку. Рэестры зьяўляюцца асноваю для запісу паступленьняў падатку па кнігах і для вядзеньня падліку выкананьня падатку асобнымі платнікамі.

§ 2. Для платнікаў свайго раёну раённыя выканаўчыя камітэты адчыняюць рэестры па кожнаму сельскаму савету. Для платнікаў, якія пражываюць у іншых раёнах, раённыя выканаўчыя камітэты адчыняюць адзін рэестр на раён. Рэестры запаўняюцца ў 2-х экзэмплярах, адзін з якіх застаецца ў раённым выканаўчым камітэце, а другі перасылаецца ў сельскі савет (па плацяжох, прынятых ад платнікаў свайго раёну па данаму сельскаму савету), або ў адпаведны раённы выканаўчы камітэт (па пляцяжох прынятых ад платнікаў іншых раёнаў).

§ 3. Казначэйскія часьці пры касах Дзяржаўнага банку вядуць рэестры паступленьняў па раёнах. Першы экзэмпляр рэестру застаецца ў касе, а 2-гі экз. пасылаецца ў адпаведны раённы выканаўчы камітэт.

§ 4. Рассылка другіх экзэмпляраў рэестраў па сельскіх саветах і раённых выканаўчых камітэтах робіцца не пазьней наступнага апэрацыйнага дня.

§ 5. У канцы апэрацыйнага дня, штодзенна касір раённага выканаўчага камітэту альбо рахункавод казначэйскай часьці запісвае ў рэестры падрахункі паступленьняў па розных крыніцах (аклад, пеня, нядоімка) і зьлічае гэтыя падрахункі з наяўнасьцю касы. Пасьля праверкі рэестры штодзенна падпісваюцца старшынёй раённага выканаўчага камітэту альбо яго намесьнікам і касірам.

§ 6. Штодзенна падрахункі рэестраў, пасьля іх праверкі, заносяцца ў касавую кнігу. У апошняй адзначаецца агульная сума паступленьняў падатку за дзень па графе с.-г. падатку.

§ 7. Раённыя выканаўчыя камітэты, атрымаўшы другія экзэмпляры рэестраў ад іншых раённых выканаўчых камітэтаў і кас Дзяржаўнага банку, складаюць па іх сьпіскі платнікаў па сельскіх саветах (на блянках рэестраў) і адсылаюць іх у належныя сельскія саветы для адзнакі ў асабовых рахунках платнікаў.

*Увага.* У касавую кнігу, а таксама ў справаздачнасьці даныя паступленьняў падатку па другіх экзэмплярах рэестраў, якія атрыманы ад іншых раён. вык. камітэтаў альбо кас Дзяржаўнага банку, не зьмяшчаюцца.

## II. Калектыўная здача падатку.

§ 8. Платнікі маюць права здаваць падатак калектыўна праз сваіх упаўнаважаных. У гэтым выпадку падатак здаецца па сьпісках, якія складаюцца платнікамі і акладных лістах усіх гаспадарак, што ўнесены ў сьпіс.

*Увага.* Упаўнаважаныя нясуць перад платнікамі адказнасьць за правільную і своечасовую здачу сум па падатку ў касу раённага выканаўчага камітэту альбо Дзяржаўнага банку.

§ 9. Грошы, якія здаюцца ў сельскі савет для ўплаты падатку парадкам калектыўнай здачы, павінны быць без адкладу зданы ў раённы выканаўчы камітэт.

*Увага* 1. Сельскім саветам даецца тры льготных дні пасьля наступленьня тэрміну плацяжу для здачы падатку парадкам калектыўнай здачы без налічэньня пені.

*Увага* 2. Пры калектыўнай здачы падатку праз сельскі савет, апошні складае 2 экзэмпляры рэестраў (замест сьпісаў). Адзін экз. пры здачы застаецца ў Райвыканкоме, а другі з адпаведнай адзнакай перадаецца сельскаму савету.

*Увага* 3. Райвыканкомы павінны пераслаць сельскім саветам выстарчальную колькасьць блянкаў рэестраў для прыёму с.-г. падатку калектыўным парадкам.

## III. Падлік падатковых паступленьняў у сельскіх саветах.

§ 10. Сельскія саветы, на якія акруговымі выканаўчымі камітэтамі будзе ўскладзен прыём с.-г. падатку (увага да § 345 інструкцыі НК Фінансаў СССР), вядуць рэестры паступленьняў падатку ў двух экзэмплярах.

§ 11. Па сканчэньні апэрацыйнага дня падрахункі па рэестру зьвяраюцца з наяўнасьцю касы. Пасьля праверкі рэестры падпісваюцца старшынёй сельскага савету і асобай, на якую будзе ўскладзен прыём плацяжоў. Абодвы экзэмпляры рэестру сумесна з прынятымі грашмі і аблігацыямі перасылаюцца ў раённы выканаўчы камітэт.

§ 12. Раённы выканаўчы камітэт, атрымаўшы ад сельскага савету грошы і рэестры, правярае падрахункі па ўсіх графах рэестру, зьвярае падрахункі з наяўнасьцю сум і запісвае падрахунковыя даныя рэестру ў касавую кнігу. Адзін экз. рэестру застаецца ў Райвыканкоме, а другі перадаецца сельскаму савету.

*Увага.* Абодвы экзэмпляры пасьля праверкі падпісваюцца загадчыкам фінансавай часьці райвыканкому і касірам.

## IV. Падлік выкананьня падатку.

§ 13. Падлік выкананьня падатку асобнымі платнікамі вядзецца ў сельскіх саветах. Для гэтага сельскія саветы запаўняюць адпаведныя графы на адвароце падліковай карткі. Асноваю для вядзеньня асабовых рахункаў платнікаў служаць другія экзэмпляры рэестраў, якія перасылаюцца ў сельскія саветы райвыканкомамі (альбо рэестры паступленьняў, што запаўняюцца сельскімі саветамі).

§ 14. Сумы прылічэньняў і зьніжэньняў с.-г. падатку, якія мелі месца ў кожным тэрміне, разьмяркоўваюцца прапарцыянальна падатку бягучага году па адпаведных тэрмінах. У адпаведнасьці з гэтым зьмяняецца раней паказаная па тэрмінах сума падатку, якая падлягае да выплаты:

а) пры зьніжэньні падатку, ад сумы, паказанай першапачаткова па гэтаму тэрміну, вылічаецца зьнятая па гэтаму тэрміну сума падатку;

б) у выпадку прылічэньняў—дабаўляецца па належных тэрмінах належачая доля прылічанай сумы да сумы, падлягаючай выплаце ў даным тэрміне.

§ 15. Асноваю для адзнак аб зьмяншэньні с.-г. падатку або вызваленьні ад яго зьяўляюцца паведамленьні райвыканкому аб выніках разгледжаньня падатковымі камісіямі хадайніцтваў і скарг.

*Увага.* Пасьля разьмеркаваньня плацяжоў на картках у дакумэнтах, на падставе якіх зроблена гэтае разьмеркаваньне робіцца адзнака: „занесена ў асабовы рахунак".

§ 16. Пасьля сканчэньня тэрміну сума, якая засталася нявыплачанай, не пераносіцца на наступны тэрмін, а застаецца на рахунку данага тэрміну. Адзнакі аб выплаце застаўшайся па тэрміну нядоімкі вытвараюцца ў такім-жа парадку, як і да наступленьня тэрміну плацяжу.

§ 17. Для падліку выкананьня падатку па раёну райвыканкомы вядуць асабовыя рахункі ўсіх сельскіх саветаў свайго раёну, куды заносяцца падрахункі ўсіх рэестраў, як па плацяжох, фактычна прынятых райвыканкомамі, так і па прынятых іншымі раённымі выканаўчымі камітэтамі, касамі Дзяржаўнага банку і сельскімі саветамі (па другіх экзэмплярах рэестраў).

§ 18. Для падліку выкананьня падатку па раёнах акругі, акруговыя фінансавыя аддзелы вядуць асабовыя рахункі ўсіх раёнаў акругі.

§ 19. Адзнакі аб прылічэньнях і зьніжэньнях праводзяцца на падставе даных раённых выканаўчых камітэтаў.

## V. Справаздачнасьць аб паступленьнях сельска-гаспадарчага падатку.

§ 20. Раённыя выканаўчыя камітэты і казначэйскія часткі падаюць у акруговыя фінансавыя аддзелы сводкі паступленьняў падатку за мінулыя два тыдні, кожнага 16-га (за пэрыяд з 1-га па 15 дня месяцу ўключна) і кожнага 1-га дня месяцу (за пэрыяд з 16 дня па канец месяцу).

*Увага.* Райвыканкомы ў сваіх сводках паказваюць толькі фактычна прынятыя імі сумы, як непасрэдна, так і пераведзеныя ім праз паштова-тэлеграфныя ўстановы.

§ 21. Форма сводкі: „Сельгаспадатковая першае верасьня падатку 00, нядоімак 00, пені 00, усяго 00".

*Увага 1.* „Першае верасьня" значыць, што справаздачныя зьвесткі даюцца за час з пачатку кампаніі да першага верасьня. Першай лічбай (падатку) паказваецца паступленьне падатку бягучай кампаніі грашыма і аблігацыямі (разам). Другой лічбай (нядоімак) паведамляецца паступленьне нядоімак мінулых гадоў грашыма і аблігацыямі (разам). Трэцяй лічбай (пеня)—паступленьне пені па плацяжох бягучага году і нядоімкі мінулых гадоў грашыма і аблігацыямі (разам). Чацьвёртай лічбай (усяго) паказваецца агульная сума паступленьняў грашыма і аблігацыямі (сума першых трох лічбаў).

*Увага 2.* Усе зьмяшчаемыя ў справаздачнай сводцы даныя паказваюцца за ўвесь час з пачатку кампаніі.

§ 22. Кожнага 18-га і 3-га дня акруговыя фінансавыя аддзелы, на аснове двухтыднёвых зводак, якія атрыманы ад раён. вык. камітэтаў і казначэйскіх частак, пасылаюць у Н. К. Фінансаў зводную тэлеграму аб паступленьнях па акрузе па форме і за тэрміны, пака-

заныя ў §§ 20 і 21, г. зн. 18-га—за пэрыяд з 1-га па 15 уключна, а 3-га—за пэрыяд з 16-га па канец месяцу.

*Увага.* Першая тэлеграма даецца акруговымі фінансавымі аддзеламі ў Н. К. Фінансаў 3-га верасьня за пэрыяд з пачатку кампаніі да 1-га верасьня.

## VI. Справаздачнасьць па хадайніцтвах і скаргах.

§ 23. Усе паступаючыя ў раённы выканаўчы камітэт заявы і скаргі па с.-г. падатку запісваюцца ў кнігу „Падлік хадайніцтваў і скарг".

§ 24. Падлік хадайніцтваў і скарг праводзіцца па наступных асноўных катэгорыях:

1) Хадайніцтвы ваенна-служачых;
2) „ чырвоных партызан;
3) „ перасяленцаў і расьсяленцаў;
4) „ незаможных гаспадарак;
5) „ па навальных няшчасьцях;
6) іншыя хадайніцтвы;
7) скаргі на няправільны падлік едакоў і крыніц прыбыткаў;
8) „ „ няправільнае вызначэньне прыбыткаў ад неземляробчых заробкаў;
9) скаргі на няправільныя дзеяньні службовых асоб.
10) іншыя скаргі.

§ 25. Кожнай з адзначаных катэгорый хадайніцтваў і скарг адчыняецца асабовы рахунак.

§ 26. Хадайніцтвы і скаргі платнікаў заносяцца па рахунках кнігі ф. № 10 у залежнасьці ад зьместу хадайніцтва ці скаргі. Не пазьней 2-га дня кожнага месяцу падводзяцца падрахункі па ўсіх рахунках кнігі.

§ 27. Адначасова з падлікам усіх хадайніцтваў і скарг, якія паступаюць на разгляд і вырашэньне раённай падатковай камісіі, у раён. вык. камітэтах праводзіцца падлік усіх скарг (ф. № 10), якія накіроўваюцца ў акруговую падатковую камісію (у парадку абскарджаньня рашэньняў раённай падатковай камісіі).

§ 28. Пастановы раённай падатковай камісіі па кожнай скарзе выкладаюцца коратка ў гр. 8 кнігі ф. № 10. Гэтыя пастановы падпісваюцца старшынёй і сакратаром камісіі.

§ 29. Пры абскарджаньні пастановы падатковай камісіі скаргнік другі раз не запісваецца, а ў графах 9 і 10 кнігі ф. № 10 адпаведна паказваюцца даты накіраваньня скаргі ў акруговую падатковую камісію і атрыманьня пастановы акруговай камісіі.

§ 30. Па скаргах, хадайніцтвах і льготах устанаўляюцца 2 справаздачы (ф. № 11-а) у працягу кампаніі: першая справаздача (ф. № 11-а) па становішчу на 1 лістапада 1928 г. раённымі выканаўчымі камітэтамі падаецца ў акруговыя фінансавыя аддзелы да 15 лістапада, а акруговымі фінансавымі аддзеламі ў Народны Камісарыят Фінансаў — да 1 сьнежня.

Другая справаздача (канчатковая) падаецца раённымі выканаўчымі камітэтамі да 1 сакавіка 1929 г., а акруговымі фінансавымі аддзеламі—да 15 сакавіка 1929 г.

## VII. Справаздачнасьць па льготах і зьніжэньнях.

§ 31. Раённыя выканаўчыя камітэты вядуць падлік усіх льгот, якія дадзены платнікам у парадку Палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку і выданых у разьвіцьцё яго інструкцыі і распара-

джэньняў. Льготы па падатку, якія даюцца платнікам падатку аўтаматычна, без падачы заяў платнікамі падатку, адзначаюцца ў падліковай картцы.

§ 32. Першая справаздача аб дадзеных льготах і зьніжэньнях (ф. № 10) у Народны Камісарыят Фінансаў, на падставе справаздач раённых выканаўчых камітэтаў, падаецца на падставе адзнак у падліковых картках да 25 жніўня. Наступныя справаздачы падаюцца ў тэрміны, паказаныя ў § 30, на падставе даных кнігі ф. № 10.

## VIII. Справаздачнасьць аб мерах спагнаньня.

§ 33. Раённыя выканаўчыя камітэты вядуць падлік мер спагнаньня, што ўжываюцца да платнікаў с.-г. падатку, у асобнай кнізе (ф. № 12).

*Увага.* Кніга падліку мер спагнаньня замяняе рэгістрацыю опісаў ва ўваходным журнале.

§ 34. На падставе даных кнігі падліку мер спагнаньня (ф. № 12) раённыя выканаўчыя камітэты складаюць справаздачную ведамасьць аб руху мер спагнаньня па ф. № 14. Гэтая ведамасьць складаецца і адсылаецца раённымі выканаўчымі камітэтамі ў акруговы фінансавы аддзел 2 разы ў год: да 15 лістапада (па становішчу на 1 лістапада) і да 1 сакавіка (канчатковая).

§ 35. Акруговыя фінансавыя аддзелы пасылаюць у Народны Камісарыят Фінансаў справаздачныя ведамасьці па ф. № 14—да 1 сьнежня (па становішчу на 1 лістапада) і да 15 сакавіка (канчатковая).

## IX. Справаздача аб выніках правядзеньня падатку.

§ 36. Не пазьней 1 мая 1929 г. акруговыя фінансавыя аддзелы абавязаны падаць у Народны Камісарыят Фінансаў ведамасьць аб выніках правядзеньня адзінага сельска-гаспадарчага падатку ў 1928/29 г. (ф. № 15).

Нам. Загадчыка Падатковага Кіраўніцтва
НК Фінансаў БССР **А. Рэксьцін.**

---

Адказны рэдактар: **М. Мароз.**